**47. Роздум**
О думак бура! Ўсё з напалам цігля!
Пераацэнка праваВых вярыг...
А праўда тая, – што на катарзе спасцігла,
вось з гэтых, снегавых і вечных, кніг.
Дзявочыя усмешкі-перламутры
цямнеюць тут і... сыплюцца ў снягі.
Адно: душа стае з гадамі... мудрай,
подобнай да калымскае тайгі.

**48. Сястры**
Дум крылатых чароды ўначы
праляцяць над калымскай прасторай.
На лічыльніках ты падлічы,
0 сястра, колькі я паспытала тут гора.
Што ёсць праца ў тым пекле звярыных "прынуд"?..
Дзесяць год... Уявіць хіба можаш?
Падлічы, колькі ў сутках пякельных мінут .
і на дзесяць гадоў перамножыш.
Як жа вымераць болю ў мінуце працэнт?
Спрэс жыццё стала гэтым працэнтам.
Калі ўсцяж над табою — у дзірках брызент,
і ў паўсотню мароз — над брызентам.
Гэта ноч. Толькі ноч
Ад відна да цямна. Дзень працуй...
Лес пілуй што ёсць сілы.
Гэй, давай!"... Гэй, давай!"
Песня смерці адна. Толькі — пілы, сякеры...
Сякеры і пілы!
Прорва думак, і болю, і гора гара.
І сама ты — у пене бяссілай.
На Радзіме ўсё гэтае ведай, сястра,
каб мяне анідзе не забыла.

**49. Сланечнік**
Было яшчэ – прыгналі ў перасылку.
Усіх сціскаў галодным дротам страх.
Праз агароджу кінуў хтось пасылку –
Сланечнікавы круг, як сонца сцяг.
І ўсе глядзелі, што пажухла лісце,

што зерняты —- даспелыя зусім,
што будзем лузгаць семкі, як калісьці
на прызьбе з маці, маладой зусім.
Не помню, хто зламаў тады нам лета –
Крывяняць дзёсны. Рухаемся ледзь.
Касцей людскіх, як шалупіння зернят,
Па ўсім этапе — налузала смерць!
І толькі я пакінута на свеце
Спаўна адчуць жыцця халодны жах, —
Адна з тых семак, што чакала смерці
На нарах… На этапах, …на зубах!

*"Перасылка" 1938*

**50. Гісторыя хваробы**

Баюся, што бясправе… — па правах
страляць пачне, шрацінамі параніць.
Ты не сумуй! Зноў душны лагбарак
Маёнткам нам для паланэзу стане…
І ў танцы мрояў зойме, любы, дых.
Абутак нам да латак бы не сцерці.
Прашу сябе адно: Не плач пры іх!"
Не плач пры іх!
"Гісторыя хваробы".
Подпіс смерці.

*Дванаццаты км. 1939*

**51. х х х**

Мы народжаны ў злосных стагоддзях,
Не выходзяць лісты, не прыходзяць.
Даплывем да свайго Судара –
Ў свет, адкуль невяртацца пара.
Ў свет, адкуль не выходзяць лісты,
Дзе алені ступаюць на трасы,
Крылаў золь і сівыя баркасы,
ў чунях сосны, ў сцігматах драты.
З новай просекі тундра расце.
Падымаемся ў неба паволі.
Людзі – сосны. Вякамі да волі —
узвышаемся з родных касцей.

*"Сударская кропка", 1946*

**52. Крама**
Я... Бабуля ў бараку... І — мама.
Напаўголасу з вечным на “ты”.
Адчыняем апошнюю краму,
дзе хлябы, як таежныя льды.
Суцяшаюць: “жывы твой каханы”.
Хоць “калючай” усцелены шлях.
Бачу вылюдка з чорным наганам.
Бачу — любы ляжыць у снягах.
Чую вечнасці горняй Матулю.
На прылаўку – і слёзы, і кулі.

**53. Скрыжалі**
На скрыжалі бязводнай ракі
Нас паромшчыкі ў форме паклалі.
Праз Дняпро і Дзвіну, праз вякі
мы этапам Хрыста праплывалі.
З хат вясковых, з каменных муроў…
Мы – з пясчанікаў Ерусаліма —
Міма Кіева, Турава зноў…
І жыцця чалавечага міма.
Мы плывем. Мы даўно ўжо крыжы.
Божа, выплысці — дапамажы.

**54. ххх**
Душэўны боль, як "сябар", абдымае.
А памяць — свежае дыханне спарыша..
Ледзь чутны стогн мой слых паўсюль даймае…
І ведаю, што стогне так Душа.

**55. Цішыня без каханага**
Адлятае снег у ноч.
“Гончых Псоў” прабежка ўзбоч.
Смех твой тут не помню я.
Я не чую салаўя. Я не бачу сноў даўно.
Я забыла ўсе кіно.
Мой каханы, цень жуды
шэпча мне праз правады. —
Тры-два-раз і раз-два-тры!
Пачынаюць… трактары!
І пад іх гудзенне зноў

“Зэкі” дзесь ляцяць у роў.
Мой каханы, — не засні.
Божа… Дай мне цішыні!
*“Сударская кропка”, 1946*

**56. Мэа кульпа**
Белы сон.  Белы гром.
Белы дзень.
Рэзкі кашаль  зямлю падымае.
Вінаваты – у кіцелі цень,
Альбо ўсе канваіры без краю?
Глыбіня непражытых гадоў:
З мерзлаты, з-пад бушлатаў і трупаў…
З-пад гранітных слупоў і курыжоў
Чую звеку чыёсь: “Мэа кульпа!”
Белы сон. Белы гром. Белы дзень!
Апускаецца магма народаў.
Вінаваты – у кіцелі цень…
Альбо – вы, што не зналі свабоды?
*Бальніца “Вавёрчына”, 1946*

**57. Не чую…**
Я даўно не баюся   прагонаў,
Вертухаяў, спяцоў і кастроў.
“Зэчка” зноў затрымала калону.
Затрымала калону я зноў.
Хтосьці б’е па нагах і смяецца.
Хтось руку падае – патрывай,
Хтосьці клацнеў затворам над сэрцам.
Не прыдурвацца тут! Уставай!
Я даўно не баюся марозу,
Над завеяй сляза цераз край.
Гах — прыкладам, аблокаў абозы.
Не затрымлівай! Уставай!
Я ў пяцёрцы — не ў цэнтры, не збоку.
Гнеўна “вохра” наўкола  крычыць.
Зуб за зуб тут. І вока  — за вока!
Ўся калона ў чаканні стаіць.
Як ланцуг, цісне горла маршрут.
Уставай! Не прыдурвацца  тут! …Не чую.

**58. ххх**
Гома саветыкус – не трыццатыя
І не Галгофы пакутны след,
Нават не робы, спрэс паласатыя
Гома саветыкус – менталітэт.

**59. ххх**
З гэткай верою ў бяссмерце —
смерць не страшна.
І перад вачмі ўсяе брыгады
стане ўпэўненай походка і адважнай, —
калі буду адыходзіць  у манады.
Палічыце гэты верш маёй распіскай.
Чаша выпіта да дна — жыцця і праўды.
І труна падасца лёгкаю калыскай —
Адыходжу я з усмешкай у манады.
І якая б ні была ў Айчыне ўлада,
хай прызнае тая будучыня ў скрусе —
...Наша Леся адышла сама ў манады,
ворагам сказаўшы: “Не здаюся!"

*Дванаццаты км., 1945*

**60. Цугам — людзі...**
Цугам – людзі і хрусткія  крокі.
За спіною з аўчаркаю — спец.
Снег рыпучы. Анёл светлавокі.
Зоркі ў неба — укінуў сявец.
Стогнуць дрэвы. Ламаюць сцежку.
Ліпкім болем крывяніць смала.
Сцяўшы зубы, хаваю — ўсмешку.
На назе ў мяне, кажуць, была... ра-на!.

*Лагер “Эльген” 1945*

**61**. **ххх** Гэткі  цуд можа толькі прысніцца…
Паміж уркаў і хіжых нязграб,
Каб была шамаханскай царыцай,
Ніжніх нараў – не аддала б!

**62. Ода калымскай аўчарцы**

Ты бяжыш, як пазёмка, аўчара, з начы.
Ты нясеш у зубах залатыя ключы
маладосці, кахання,  світання майго.
Застываю у тундры. Не помню яго.
Ты завеямі хвост распускаеш, сабака.
Б'ешся ветрам у вокны і дзверы барака.
Выеш, Мылга, нібы не мяне тут, а вось...
гвалцяць, кіпнем жывот прапаліўшы наскрозь.
Дзякуй, выла, калі я ляжала ўжо — там.
Алелуя, сястра. Алелуя снягам!
Дзякуй, Мылга, што ты... (не яны! Не яны...)
Здзерла скуру, сарваўшы брызент са спіны.
Вось і Гончыя Псы апусціліся з неба,
што анёлаў прыгналі — з-за пайкі, з-за хлеба.
І разлегліся тут каля бочкі гарачай,
і слязінкамі вочы замерзлыя плачуць.
Дзякуй, Мылга, завыла ты песні ў тайзе,
мне залізвала рану на змерзлай назе.
...Лапы ў грудзі мае, нібы сосны, ўраслі.
Мы з табой, нібы сёстры, этапы прайшлі.
Адшукалі над вышкамі смерці – радню,
Што стралялі мне ў вочы слупамі агню!
Рассстраляных. Забітых. Замерзлых – аўчара.
Да Радзімы прыходзіць нябесная кара.
Дзякуй,  Мылга, што выла, калі мы ляжалі ўжо — **там.**
Алелуя, сястра. Алелуя снягам!
—Малчать!
*Бальніца "Левы Бераг", пажыццёва*

**63. xxx**

Стану для Айчыны звонкой одай.
Звершыцца з няпраўдай судны бой.
Адна сям'я... ўсіх нацый і народаў,
О Беларусь, радзіма...— вобраз твой.

**64. xxx**

Даплываем, даходзім, даем дубара –
Васемнаццаць км.  да тайгі Судара.

**65. Не плач…**

“Не плач, сяброўка…”— кажуць мне дзяўчаты.
А сэрца точыць, точыць тля нядолі.
Не паслабляюць словы боль зацяты,
Яго прыцішыць можа толькі – Воля.

**66. Арган**

Ляжыць арган свяшчэннай Калымы.
Уся зямля ў тайзе спакою просіць.
Іду ў снягі суровае турмы.
І побач — мой анёл праставалосы.
Не спіць арган пакуты і тугі.
Пачні акорд — і рук свіцяць бярозы.
Паміж ірвоў, як па лязе тайгі,
Іду… І наступаю зноў на слёзы.
Хрыпіць аркестр калымскія гады.
Паміж ільдзін кружацца зорак восы.
Сіпяць вятроў крывавыя лады.
Пад хор анёлаў душы нашы ўзносяць.
Грыміць арган. Бязмежжа стынь кране.
На просеку брыгаду зноў прыгналі…
Вы прызнавалі мёртвую мяне,
але чаму жывою — не пазналі?
Крычыць арган, як норы ўсіх звяроў.
Бушлат прамерз. Адна, пры ўсім народзе,
іду ў снягі па клавішах сяброў.
А нехта заўтра — і па мне так пройдзе.
Маўчыць аркестр. Барак мярцвее ў сне.
І печка зноў так ціхенька галосіць…
Застыў арган у вечнай мерзлаце.
Арган касцей, прадзьмутых сцюжай лёсу.

**67. xxx**

Наперадзе — полюс усіх халадоў,
Ахоцкае мора — пазадзе.
Між імі — адно мая маладосць
з замерзлай слязой у паглядзе

**68. Дарога з келлі святой Еўфрасінні**

Вяртаючыся з Полацка у Спарту,
У гэты грэх, у тлумную душу,

я на пергаменце, што вырваны з асфальту,
Сваю любоў снягамі напішу.
Ляціць аўтобус праз чужыя ночы...
І хруст крыла...
О, Маці, блаславі хоць раз пабыць —
на найсвяцейшых мошчах
адно маленькай кропелькай крыві.
Дзе б ні была... Ці ў мілай Беларусі,
ці на кавадле грознай Калымы,
з табой, матулька, і мяне у скрусе
лагодзілі таежныя грамы.
Ляціць аўтобус горда і бяссіла,
О, Найсвяцейшая, пры хлебе і агні
пяром з крыла святога Гаўрыіла
мне сэрца, Маці, сёння разапні.
І я прыйду да ўсіх, каго ў задусе
Убачыла прыніклай да ільдоў...
Пакінула каго на Беларусі,
Ды не забыла ў полымі гадоў.
Здымі ж з укрыжавання ўсіх нас, Маці.
І — адагрэй.
О Найсвяцейшая...

**69. ххх**

Паўзі... Не падай на калені.
Тут – Дух ламаюць дзень пры дні.
Не страшна, калі ў роў падзенне.
Страшней мне – страта вышыні.

**70. Шарэнгі душаў**

Шарэнгі душаў – як этапы свечак,
Завеі плачы —пад маўчанне “зэчак”.
Ідзем бясконца, — як этапы веку.
Струмень крыві праз белакроўе снегу

**71. ххх**

Ўсяму спаможна ў полымі згарэць,
пакінуўшы ўспаміну толькі цень.
Над словам ісціны адно ...не ўладна смерць!
Яно паўстане — сведка ў судны дзень.
Яно паўстане... Сведка — у крыві!

Каб зрынуць нам прысуд.  Каму — які?..
...Або праслявішся ў радзіме — Чалавекам.
 Або, зняслаўлены, знябудзешся навекі.

**72. Пагоня**

Мае вочы слязяцца – няхай…
Я — убачу цябе, вертухай.
Мае рукі аслаблі — чакай,
Я пацэлю ў цябе, вертухай.
Продкаў коней — вятрам не суняць,
Буду імі цябе даганяць.
Гон Пагоні, імчы цераз край!
Белы меч я цяпер, вертухай.
Мае вочы аслеплі ў журбе.
Я ўсёроўна  — разгледжу цябе!
Мае рукі завальвае снег…
Вертухай, я праб'юся наверх!
Лагер чунямі жыцці грабе,
Адчуваю  дарогай сябе.
Лёс — тайга на эльгенскай мяжы.
З мацюкамі страляеш, бяжыш…
Ў карцар гоніш мяне. Толькі знай —
Я вярнуся жывой, вертухай!
З-пад снягоў, з-пад ільду, ў барацьбе
Вертухай… Я — насцігну цябе!
*Лагер “Эльген”, 1953*

**73. Нацыянальнасць**

*Ахматавай*

Збедаваны згалелы якут…
Юрта ўмерзла ў Ахоцкае тут.
 Тут пусцілі свае карані
 Сосны ў неба, дзе зорак ані.
Я – эвенка, якутка, а мо –
З тых пляменаў, што ўмерлі даўно.

Па бабулі, як Анна,—  з татар.
Сотні год апускаюся з нар.
 І са мною ў калымскі маршрут
Нацый цені збіраюцца тут.

Я — мільёны і ўсё-ткі адна.
Ты – паўсюль. Ты — заўжды, Калыма.
Трупаў горы. Нячутны вам енк.
Прадзед мой беларус і эвенк.
Я гляджу праз вякі з белых рос.
«Это рысьи глаза твои…», лёс.

**74 ххх** Стаім, як свечкі на вятрах тваіх, радзіма.
Ад Янкі... Алаізы... І — Максіма.
Гарым, як свечкі, між снягоў, Айчына.
Святога Духа у імя... Айца і Сына.

**75. ххх** Вы, што яшчэ не паўсталі,—
Ведайце ў спратах зямлі:
Сад гефсіманскай пячалі
Вырас на нашай крыві.
Вы, што мой боль не спазналі,
Ведайце з хмары тугой:
Сад гефсіманскай пячалі
Змераны нашай хадой.

Вы, хто не роджаны сталі,
Знайце ў спаленні дажджом:
Сад гефсіманскай пячалі
Нас не сустрэне ўжо.

# Вясельны хутар

### Рэквіем памяці

*Незабыўнай сяброўцы маёй  Яўгеніі Янішчыц*

**ПРЫСУТНЫЯ: Маці; Настаўнік; Суседка; першая і другая Сяброўкі; стары Паэт; малады Крытык ;Эн Сэкстан; Доктар; Постаць у форме афіцэра КДБ; Анёл белымі крыламі; Анёл з чорнымі крыламі. А таксама: Палесскі Хор; Відэапостаць *Яўгеніі Янішчыц*; Радыёгаласы.**

У глыбіні пакоя напоўадчыненыя дзверы веранды ці  балкона. Унізе кветкавы дыван. Уверсе блакіт з воблакамі. Па цэнтры прыгожа засланы стол. Абапал яго — лавы. Уверсе абразы Крыжаўздвіжання і Макарыя Пінскага ў ручніках. На стале два рады незапаленых свечак. Кожная насупраць талеркі і шклянкі. Яшчэ — нікога.

Даносіцца вясёлае:“Ох, ручеечек, ручеек...”

**1.** Уваходзяць Анёлы, становяцца  ля дзвярэй, як нябесная варта.

**Анёл белы** *Не воблака, а проста аблачынка*
*Загадкава плыве над галавой.*
*Смяюся я... вясёлая дзяўчынка,*
*Як матылёк ляціць над кладкай той....*
*Як лёгка ёй журыцца беспрычынна!*
*Да твару ёй і лета,і зіма...*

**Анёл чорны** *Ўсміхнуся я: яшчэ бяжыць дзяўчынка*
*Па кладцы той, якой даўно няма.*

**2**. Абодва знікаюць. Уваходзяць Суседка і Маці, ставяць на стол талеркі і пляшкі.

**Маці**  Хутка прыедзе. А ты ж мое дзіцятко. Бы ластавачка, — віць!

**Суседка**  А мяне, помніш, вы з Юзікам сустракалі.

**Маці** У Юзіка галіфэ – сіняе-сіняе.

**Суседка** А гармонік? На ўсю Велясніцу як урэжа!

**Маці** Дарога, чуй, з Мінску няблізкая.

**Суседка**  Дахаты дарога карацейша.

Ставіць на стол талерку  са смажанінай

Шаснаццаць гадочкаў было, як я за Сцяпана выходзіла.

**Маці** Шаснаццаці не было!

**Суседка** Дзела ж не церпіць! І ў цябе Жэнька тады радзілася.

**3.** Уваходзіць Брат з бутэлькай мутнай вадкасці, якую ставіць на лаву.

**Брат** Суседзям званіў. Выехала!

**Маці** Ага, зловіш яе, як сініцу за хвост… Сказалі: якіх паўгадзіны і тут будзе.

**Суседка** От не люблю несправядлівасці. Такога чалавека сувяззю не абяспечылі.

**Брат** Суседзям кланяемся. У ААНы дападае, а тэлефона…

**Суседка** Ага! А колы шчо якэ?

**Брат** Якэ! Трындзіш, як амерыканскае радыё.

Ставіць бутэльку на стол

**Суседка** Паскудство! Людзі з Мінску, а мы — буракову…

**Брат** На гэтым паскудстве усэ нашэ сэло выжывае.

**Суседка** “Сталічную” давай…

**Брат** На! (*падае Маці ліст і выходзіць)*

**Маці “**Дзень добры, мае дзіцятко…” Ніц не бачу. Пачытай-но, сусідка!

**Суседка “…**Надоечы брала каня. З тых пор, як схавалі мы бацьку, …лагоднейшым стаў старшыня.”

**Маці** Госпадзі! Шчо то?

**Суседка** “Грошай болей не шлі. Малако ад сваёй каровы. Сала ёсць.” Ма-аня? Дзе ў яе на тым балконе корова?

**Маці** Маё пісьмо. Жэньцы. Колішняе.

**Суседка** Пошта наша, Маня, яйко іх. Старыя пісьмы варачаюць.

**Маці** Я хутко!(*праз хвілю ўносіць яшчэ адну талерку)* Качкы добро ўтушыліся. Подружка прыязджала. Валька. Даю качку, а вона ў сміх: — На ўсю рэдакцыю! Я кажу – останься. Шчо там адна? Увечары я табе цэлы мех качок тых напакую. А ў вас тут што, Андрэеўна, ферма? Глянь, кажу, каля ракі унё цэлыя чароды жыруюць.

**Суседка** Я думаю, з радні трэба, каб яе сустракалі. Ты, Маня! Гэля пісала — у такім вэлюмі. Хороша-хороша! А з загсу трэба, шчоб ты!

**Брат (***з веранды)* Ну не лезь ты папярод бацькі! Бадай вас. Зноў нейкія гальштукі прыехалі… Лесу такі пасеклі! (*уваходзіць)*

**Суседка** А табе больш за ўсіх трэба? Усё не ссякуць!

**Брат** А як рэчку выпрамлялі, помніш? Жэня ўжо ж не напрасно бедавала.

**Маці** Була тоді і Валька. І на цяпер чакалі. А яе некуды ў камандзіроўку. У Ліду. Як спецыяльно! Такі дзень — і ў камандзіроўку.

**Суседка** З хлебам-соллю трэба. Маня, ты мусіш сустрэць.

**Брат** Пайду шчэ пазваню. (*выбягае)*

**Суседка** А каравай — на ручніку, з пеўнямі вышытымі. Каб сыночкі радзіліся. Пайду ручнік гляну. (*выходзіць)*

Увахозяць Паэт і Крытык, кладуць на стол каробкі цукерак.

**Паэт** Здаецца, спазніліся.

**Маці** Людцы мае дарагія. У такую далеч! І часу найшлі.

**Крытык** А такія, як наш паэт, ні ў чым не спазняюцца. Савецкія доўгажыхары!

**Маці** Не прыехала шчэ.

**Паэт** А я ведаю: вы — маці. “Маці мая — паэтэса!”

**Маці** У печы пайду гляну. Грыбчыкі тушацца.

**Паэт** Дык яна, значыць, тут нарадзілася?

**Крытык** Даўно смажаныя баравічкі не еў.

**Паэт** Як дзеці гарадскога асфальту, ваша пакаленне бачыла грыбы …толькі ў смятане.

**Крытык** Паэты шалёна раўнівыя! (*азіраецца).*

*Тут чараты і гаць… І гай навідавоку.*

*Як цяжка прывыкаць да вашых рук здалёку.*

**Паэт** А крытыкі — не раўнівыя?

**Маці** Работа ў мяне. Выбачайце. (*выходзіць).*

**Паэт** Народнасць нашага слова, дарагі мой…

**Крытык** А што народнасць? У цэнтры Еўропы, знаеце…

**Паэт** У цэнтры! А свядомасць — як у захалуснай пячоры!

Уваходзіць Суседка, пасцілае ручнік на лаве.

**Суседка** Сядайце. Зараз мядку прынясу. (*выбягае)*

Крытык і Паэт садзяцца за стол.

**Крытык** Я нічога ў вас не прашу. Заўважце: я патрабую.

**Паэт** Таму ярасна ганьбіце ўсіх старэйшых? Паскуднікі!

**Крытык** Вы — не маеце права сустракаць яе!

**Паэт** А хто яе вывеў у людзі?

**Крытык** Залетась паводка была. Кладку вашу бы карова языком злізала.

**Паэт** Стыхія!

**Крытык** А далей, пасля кладкі, што? *“Такой прысні, як яблыневы сад?”*

**Паэт** Яна ўся саткана з яблыневага цвету. Яе вобразы…

**Крытык** Вы што, прэтэндуеце на ролю садоўніка?!

***3.*** Уваходзіць Настаўнік з кветкамі, кладзе іх каля цукерак.

**Настаўнік** Сказана: Калі б не было любові між намі, паўсталі б людзі на нас. Жывых і мёртвых.

**Крытык** (*паэту)* Прызнаю — без вас працэс не быў бы такім імклівым.

*...а будзе што не так, малю:*
*скруціце стомленае крылле*
*і кіньце ў родную зямлю*

**Настаўнік** Неблагая памяць.

**Крытык** А ўзнагароды там, званні, ардэны? Непатрэбныя бранзалеткі ад уладаў!

**Паэт** Душна! Пойдзем, дыхнем. (*знікае з Крытыкам на верандзе)*
Уваходзяць Брат, Маці, Суседка.

**Суседка** Як була ў Мінску, у Лёніка... От знаеце, чаго не хапало?

**Брат** Ага. Як дыхнеш. — такім гноем з суседскага хлява цягне!

**Суседка** Шчо? А з твого?

**Брат** А з нашага – бражкай (*смяецца).* На душы нешта неспакойна. Можа, пойдзем, на дарозе яе пярэймем? (*абодва выходзяць)*

**Суседка** Занудзілася я на тым восьмым, Маня. Катлеткі, водзічка...

**Маці** І Жэньку на восьмы пасялілі. *(* выходзяць)

**4.** Паэт і Крытык вяртаюцца.

**Паэт** У нас, малады калега, самае галоўнае — **што** было?

**Крытык** Ха!

**Паэт** Вы яшчэ нічога не дасягнулі, а хочаце адразу — лаўраў!

**Крытык** Гэта вы сабе хуценька парабілі імёны. Спачатку праслаўляючы... Мудрую і непарушную. Потым — ганьбячы яе.

**Паэт** Пры чым тут партыя? Гістарычная абумоўленасць ад нас не залежыць.

**Крытык** Затое я беспартыйны.

**Паэт** Любоў да радзімы і нацыянальны клопат... Вось гэта наша! А вы?

**Крытык** Толькі дзякуючы нам праявілася тое, што беларусы еўрапейская нацыя!

**Паэт** Авохцечкі мне! Мы славілі народ і адстойвалі нашу родную мову..

**Крытык** Астаялі?..

**Паэт** Нават ад вас не чакаў такога цынізму.

**Крытык** Ну добра. Вы асудзілі вамі ж дапушчанае — Курапаты! Гулагі... Але ж ад узнагарод, партыяй дадзеных, не адмаўляецеся? Адрачыцеся! Ну, дапусцім, ад званняў "народныя"!

**Паэт** Мы заслужылі ўсё талентам і працай.

**Крытык** Слабо?

**Маці (***здалёк)* Ой, там нішчо оддаты трэба. Я, можэ, прынясу?

**Крытык** Ды не. Гэта жарты ў нас такія!

На імгненне ў дзвярах узнікае Постаць кэдэбіста. Паэт і Крытык выходзяць.

**5.** Уваходзяць Маці і Суседка, кроячь хлеб.

**Суседка** Бачу, вазоны сохнуць пачалі. Высока надта. Я ў ліфт. Пакі Лёнік на рабоце, я ў цэркаў! Іду назад. Ляжыць. На асфальце! Падсохла ўжо…

**Маці** Хто падсох?

**Суседка** Самае настаяшчае. Конскае! Я ў цэлафанчык….

**Маці** І ў Мінску сваё знайшла. Заарыштавалі б, сарамоцце!

**Суседка** За што?

**Маці** Цяпер абы толькі ўзяць чалавека ды выдумаць абы шчо. Цьфу! А там даказвай, што гэта конскае…

**Суседка** Бачу, ЦУМ блізко. Чобаты трэба. Паклала я свой цэлафанчык …у гэтую, ну, што на ключык замыкаецца.

**Маці** Чобаты купіла? ..

**Суседка** А старыя — куды?

**Маці** Ды Сцяпан жа іх так знасіў, што нос вараціла.

**Суседка** А мне – самы раз. Спускаюся з таго ЦУМу. Ключыкам у шуфлядцы жух-жух. І не паверыш...

**Маці** Ты што? Г. ўкралі?

**Суседка** Цяпер, Маня, і дзярмо добрае без нагляду не паляжыць спакойна. Помніш, пайшоў быў Сцяпанко да грымзы тае. Каб ёй дыхаць не было чым! Пустка, а не хата стала. Ні табе салідолу таго, ні стужачкі сасновай, ні конскае збруі нават. Сцярыльна ў хаце. Надыдзе вечар, а пячаль така-а-я! Бяру я гэтыя ягоныя чобаты, гуталінам вышмараю да бляску. Пастаўлю перад ложкам. Гляджу! Сяло гудзела…*спявае)* “

*А мой мілы чарнабровы.*
*Мой мілёначак шафёр.*
А *ў яго наконт любові…*
*Не заводзіцца матор”.*

Чуеш, Маня Што гэта казалі? Гэта ў мяне ! У мяне — палюбоўнік?!

**Маці** Чобаты ж — ваксавала.

**6.** Даносяцца грымоты. Суседка знікае ў дзвярах, з якіх уваходзяць Сяброўкі ў мокрых плашчах.

**І-ая Сяброўка** Ды ў яе ад Бога талент!

**Маці** Дівочкы мої... Я зараз! Катлеткі. Зараз.

**2-ая Сяброўка** Ды мы не галодныя.

**І-ая Сяброўка** *Будзе слоту абвяшчаць прагноз,*
*Лістабой учыніць пературску.*
*Песняй, што расчуліла да слёз,*

*Я прыму цябе па-беларуску…* Шэдэўр!

**2-ая Сяброўка** Але брала яна зусім іншым!..

**І-ая Сяброўка** А ты? Спачатку білетам партыйным махала. А ў перабудову… дутую оду бацьку спарадзіла! Дарэчы, самы прафесійны твой опус.

**Маці** Такі дождж хлоіць на дварэ! А ў мяне клопату…

**Сяброўкі** Дазвольце, паможам! ( *выбягаюць)*

Уваходзіць, смеючыся, Суседка.

**Суседка** Няўжо ў хлеў паслала?

**Маці** Бульбу пачысціць трэба.

**Суседка** І рыбы Сцяпанка стараецца.

**Маці** Вярнуўся ўсё ж? Устала я ўвечары неяк з-пад каровы. Прыслухалася.Сена варушыцца! А тут ужо і цёмна на двары. Па драбіне, чую… Змярцвела я, Маня.

**Паэт (***з балкона)* Знаеце, любоўная лірыка...

**Крытык (***з балкона)* **С**івізна ў галаву — чорт у рабро!

**Суседка** А сена зноў… варушыцца, варушыцца! Толькі й магу прагаварыць: “У-ю-ю, ую-ю, у-ю-ю...” Чую: **“**Не бойся, Фядорачка”. Гэта я. Сцяпан твой. Прыдуркаваты. І больш — аніц! Да грымзды той грудастай ад таго ні нагою.

**7.** Уваходзяць Сяброўкі.

**2-ая Сяброўка** Здаецца ўсю бульбу на свеце паабіралі.

**І-ая Сяброўка** Там такі каларытны рыбак прыйшоў. Як у Ажэшкі.

**2-ая Сяброўка** Можа, рыбу пачысцім?

**Суседка** Не! Гэта — мы самі! (*разам з Маці выходзіць)*

Сяброўкі салдзяцца за стол. Наліваюць, але не выпіваюць.

**І-ая Сяброўка** Так табе тое выступленне на з’ездзе і не прабачылі. Рашылася бэсціць яе з трыбуны! А пасля? Ну навошта на Паэта ў прэсе бруд ліла? Сябе ж апаскудзіла! Ведама, дырэктар такой установы! За крэсла трымалася.

**2-ая Сяброўка** Затое ты ў нас князёўна! Ці, можа, камісарша?

**І-ая Сяброўка** Дзверы ў кабінеты, як ты, ілбом не адчыняла!

**2-ая Сяброўка** Што, спецыяльны ключык меўся? Гэта каторы ўжо муж у нас?

**І-ая Сяброўка** Мы апускаемся да плётак?

**2-ая Сяброўка** А мяне пад следства тады падставілі. І ніхто з вас…

**І-ая Сяброўка** Надта любіла левыя грошы!

**2-ая Сяброўка** Дачакалася… Нават старшынёю Саюза абралі. І панеслася. За мяжу! Кнігі без чаргі! Усіх таленавіцейшых прэч!

**І-ая Сяброўка** Адкуль столькі злабы?

**2-ая Сяброўка** Бо ведаю, хто даносы на Быкава ў Гародні пісаў. Дык чаму я чорная?

**І-ая Сяброўка** Ты – чырвоная! Зрэшты, атрымліваецца шэрае…

**2-ая Сяброўка** У нас быў партыйны абавязак. Гаварыць праўду.

**І-ая Сяброўка** Выгадную табе! Вядома. Высокая філасофія! Усход! З гуру да самой Багародзіцы. А яе ў той час трымалі ў рэанімацыі. Пасля нечыіх шчырых прамоў!

**2-ая Сяброўка** І чаму наша беларуская інтэлігенцыя з такой асалодаю ...знішчае сабе падобных?

**І-ая Сяброўка** Табе лепей ведаць. Альбо — ты, альбо цябе!

**Маці (***уваходзячы)* Та шчо вы, дівочкы. Нэ п’етэ? Раньшэ ж…

**2-ая Сяброўка** З юнацтва не прыймаю алкаголю.

**І-ая Сяброўка** І цвярозай можна сяброў прадаваць.

**Паэт** *(з балкона)*Усё ж любоўная лірыка... Яна неяк казала мне: “*Калі памру — не ад разрыву сэрца, а ад разрыву шчасця я памру.”*

**Крытык** *(з балкона)*Гэта ўжо не лірыка.

**І-ая Сяброўка** Нас усё роўна любілі! Бо мы ўсе былі па-свойму таленавітыя. Ішлі як магутная хваля.

**Брат** *(уваходзячы)* А яна ляцела чайкаю!

*Зноў паўторыцца нечая казка*
*Рук ласкавых. Жадобных вачэй.*
*Захапленне. Каханне.. Развязка..*
*Што яшчэ можа быць балючэй.*

Але ж роботы-ы... *(выбягае)*

Сяброўкі ціха перамаўляюцца за сталом. З балкона чуюцца галасы Паэта і Крытыка.

**Крытык** Яны заўжды былі ў цэнтры ўвагі, але іх раз’ядалі плёткі, Зайздрасць, нікчэмнасць багемы.

**Паэт** Бо нічога людскае ім, як кажуць, не было чужое.

**Настаўнік** *(уваходзячы)* Час раскідваць каменні. І час — збіраць каменні.

**2-ая Сяброўка** Вінаваціш мяне за той з’езд, а сама? Хочаш запомніцца толькі Найпершай? Толькі патрыёткай. О так! І яшчэ ў тыя Васьмідзесятыя вызначыла з нас усіх сваю галоўную суперніцу. Яе! Найперш яе! І ўрэшце пасварыла яе з усімі!— апусціла ў псіхалагічную … Ізаляцыю! А ўсё – нервы…

**І-ая Сяброўка** А ты? Можа, успомнім тую гісторыю з прэміяй?

**2-ая Сяброўка** Гэта была мая прэмія! Мая, а не яе…

**І-ая Сяброўка** Авохцечкі мне, як кажуць! Ды цябе чытаеш, як боб жалезны грызеш.

**2-ая Сяброўка** А ты? Ніколі не ўмела высякаць з граніту характары. Так і друкавала ўсю глыбу цалкам.

**Маці** (*убягаючы)* Іжтэ, дівочкы. Іжтэ!( *знікае)*

**І-ая Сяброўка** Зрэшты, усё забываецца і стае прахам.

**9.** Абедзьве выходзяць. У пакой уваходзяць Крытык і Паэт.

**Крытык** Але ж нехта некалі будзе марна разгадваць іх рэальныя імёны.

**Паэт** Проста імёнаў даўно няма. Хаця, прабачце... Марына, Анна, Ларыса, Валянціна, Еўдакія, Вольга, Ніна,Таісія!

**Крытык** Бо яны і водар, і даўкае дыханне сваёй эпохі.

**Паэт** Яе ззянне і непраглядная цемра. Кісларод, і баласт.

**Настаўнік** Усё некалі завяршаецца. І — некалі пачынаецца.

**Паэт** "*Пачынаецца ўсё з любві... Нават ненавісць і агіда."*

**Крытык** Самыя геніяльныя ўсё ж — мужчыны!

**Паэт** І паскуднікаў хапае. Мой сусед-графаман, Сысойка, Упэўнены ва ўласнай абранасці, заўсёды важна дазваляў:" Ну, цісніце маю таленавітую руку!"

**Крытык (***спявае)* "А хто п'е, таму налівайце*"*. Час устанавіць раўнавесіе! Абодва падымаюць шклянкі. Убягае Суседка. Паэт і Крытык ставяць шклянкі на стол.

**Суседка** Хутка прыедзе! Брат яшчэ раз дазваніўся.(*выбягае)*

**2-ая Сяброўка** Я хацела аднаго: зберагчы родную літаратуру! Таму якраз тады, калі зганялі з пасад нашых аднакашнікаў, дарэчы, лепшых пісьменннікаў, — згадзілася быць дырэктарам.

**Паэт** Авохцечкі мне! Пасіянарыя вы наша.

**Настаўнік** *( з балкона)* Сказана: ёсць птушкі, што сягаюць у неба... І ёсць тыя, што шукаюць для спажывы...толькі падліну.

**Крытык** Ёсць тост! (усе *падымаюць шклянкі).* За тое, што мацней за дырэктарствы, за ўсе вашы раманы... Помніце?

*Час — вар'ят, шалёнае таксі.*
*Толькі ўсё ж не мыслю я аб спуску.*
*Кажаце, магілы звараслі?*
*Памаўчы са мной па-беларуску*. За талент!

У дзвярах на імгненне ўзнікае Постаць у форме афіцэра КДБ. Усе ставяць шклянкі.

**Крытык** Здаецца, нехта ходзіць?

**Паэт** І я — чуў... Глянем?

Абодва выходзяць.Сяброўкі знікаюць на балконе, адкуль чуюцца толькі іх галасы.

**2-ая Сяброўка** Але я сказала тады, на тым з'ездзе, праўду. Хоць раз! Хіба сама не помніш, як яна... То людзей патрэбных напоіць. То падаруначак падсуне. То яшчэ што....

**10.** У пустым пакоі чуецца трэск радыё.

**Голас Дыктара** Гаворыць беларускае радыё. Перадаем новыя творы Беларускай паэтычнай анталогіі...

*Ні зайздрасці ў душы, ані шкадобы.*
*Служу зямлі, дзе промень не пагас.*
*О рыцары на час, дзяльцы і снобы!*
*Шчаслівая, я больш не ўбачу вас.*

Уваходзяць Паэт і Крытык.

**Крытык** Калі бракуе таленту, барзапісцы кідаюцца, як мухі на шкло... То ў дэмакратычныя прэнія, то ў кар'еру любой цаной. Любой!

**Паэт** Але ў аснове першага і другога...

**Крытык** Комплекс непаўнавартасці! Дарэчы, неяк бачыў вас у парку, з гэтымі чувіхамі. Палавы гігант!

**Паэт** Лухта! Выпадкова не помніце, у якім мы стагоддзі?

**Крытык** Здаецца, у канцы, альбо ў пачатку. Ды якое значэнне?

Выходзяць. У пакоі з талеркамі з'яўляюцца Суседка і Маці. расстаўляюць талеркі.

**Маці** Кватэра нова цяпер. Каля ракі. Ажно тры пакоі. А ён і копійчыны нэ даў. Сама ўсё абставіла.

**Суседка** Була раньшэ ў той шчэ. Каля вакзала. То на кухні шчуры ўсю ноч шахалы. ( *абедзьве выходзяць*)

**І-ая Сяброўка (***з балкона)* У цябе і слёзы фальшывыя.

**2- ая Сяброўка (***з балкона)* Думаеш, так ніхто і не ведае пра твае дзялішкі??

**Настаўнік (***з балкона)* Данасіцельства — у славянскім менталітэце. Напісана: "Уратуй сябе самога і сыйдзі з крыжа."

Уваходзіць у пакой разам з Сяброўкамі.

**2-ая Сяброўка** Яшчэ доўга беларусы не будуць нават здагадвацца пра тваё нутро. Надта шчыра клянешся ў любові да айчыны. А ў яе...

*"Я люблю" панесла ўдалеч рэха.*
*"Я люблю" пацвердзілі — лясы.*

**І-ая Сяброўка** Можа, калі-небудзь яна — прабачыць нам?

**Настаўнік** Нацыянальны клопат, роўна як і пагоня за дабротамі, славаю, а таксама чынаманія, здрадніцтва...былі заўжды ў нас у вялікай модзе..

**2-ая Сяброўка** Ды кіньце вы!

Усе трое выходзяць. У пакой уваходзяць узрушаныя Паэт і Крытык.

**Паэт** Я пяцьдзесят гадоў змагаўся за нашу незалежнасць. За свабоду і нашу самасвядомасць. На розных узроўнях.

**Паэт** Пяцьдзесят гадоў! За што і быў скінуты…

**Крытык** Толькі з пасады! Але ж не з п’едэстала.

**Паэт** Усё, што вы атрымалі гатовым, я аплаціў жыццём.

**Крытык** І што ж мы атрымалі?

**Паэт** Ды кіньма спрэчкі! Нас і без таго…

У праёме дзвярэй на імгненне ўзнікае Постаць у форме афіцэра КДБ.

**Крытык** Нас усіх і без таго скінуць! Кожнага – з яго паверха.

**Настаўнік** Сказана:”Вы былі калісь цемра, а цяпер святло ў Госпадзе, Дык паводзьцеся, як дзеці святла

**Паэт** *Над смутным днём, раптоўнай катастрофай*
*Маіх празрыстых воблакаў і сноў, Паўстану я…*

**Крытык** Зразумеў! Я ўсё зразумеў! Але чаму толькі яна? Чамуяна адна — адказала за ўсіх?.

**Настаўнік** Пры пазнанні мудрасці смерці Чалавека не спыняюць межы быція. Ні пры падзеннях. Ні пры ўзлётах ісціны.

**Крытык** *Можа быць зусім не выпадкова*
*Паўстану я ў святле нязменных мар*
*Дзяўчынкай той, якой вядома слова*
*І невядомы ўвесь яго цяжар.*”

**Настаўнік** Сказана: паўсталі дзеці на бацькоў і забілі іх.

**Крытык** Зноў задыхаюся! *(разам з Паэтам выходзяць)*

Уваходзіць Брат з гармонікам.

**Брат** Пакурыць хачу. *кладзе інструмент на лаву*

**Настаўнік** Ніхто так не знішчае чалавека, як ён сам сябе (*выходзіць)*

**Брат** А што вы ведаеце пра нас? Вас што, маё палажэнне турбуе? Стасіка — ў школу за пяць кіламетраў важу! У першы клас! Маруся круціцца, як вавёрка ў коле. Куры, хазяйство… свінчо! Але ж не…Не! Сястру трэба настаяшча сустрэць! Па-нашаму! Што б такое ёй? (*спявае)* “Ой сівы конь бяжыць…

**Хор (***здалёк)***“**Ой, сівы конь бяжыць, на ім бела грыва…
Ой спанаравілась, ой спанаравілась, мне тая дзяўчына!”

Брат, падпяваючы, бярэ гармонік і выходзіць.

**11.** Уваходзяць Эн Сэкстан, Паэт, Сяброўкі.

**Паэт** Вы таксама – сустракаць яе?

**Сэкстан** Яна неяк звярнулася да мяне. Калі была ў Нью-Йорку.

**Сэкстан** Яна трошкі іншая, чым вы ўсе.

**Паэт** Таленавіты – значыць небячспечны. Пачытайце нам! Я то ніколі не ўмеў чытаць сваё. а слухаю з радасцю.

**Сэкстан** The starry night The town does not exist except where one black-haired tree slips up like a drowned woman into the hot sky....

**2-ая Сяброўка** Некалі вывучала ангельскую. "Горад не існуе, калі чарнакоса вярба, як тапельніца, ціха знікае, у спякотнае палкае неба. Гмахі моўкнуць. Адзінаццаць зорак хвалююць. О, зорная, зорная ноч. Вось яно. Быццам памерці хачу." Убягае Маці, шэпча нешта Сяброўкам, разам выходзяць.

**Паэт** А што азначае адзінаццатая зорка? Адзінаццаты месяц?

**Сэкстан** Прабачце, у вас нешта на пінжаку. Бы кроў.

**Паэт** Нічога. Ударыўся аб нейкія парэнчы. Калі мяне выкінулі... Здаецца, таксама з восьмага паверха.

**Сэкстан** Лёсы ва ўсіх нас вельмі падобныя.

**Паэт** Так, і розныя, і падобныя.

**Сэкстан** Тое, што вы называеце ўзаемаразуменнем у грамадстве, залежыць толькі ад самаадчування кожнага з нас. Але — важна, каб вецер учасна прагнаў хмары.І чалавек выжывае...

**Паэт** Я – не паэта, о крый мяне божа... Аднак ведаю — Толькі кароткі званок сябра — і дэманы знікаюць. Толькі адзін стук у дзверы, і хімеры — вон!

**Сэкстан** Здаецца, яна так і не пачулі той ратавальны стук.

**Паэт** А вось вецер? У нас ён, бывае, на двух нагах прыходзіць.

**Сэкстан** У вас і праўда асаблівыя праблемы.

**Паэт** *Я думала, прыйду ў зялёны сад.*
*Прыйшла у сад, які увесь барвовы.*

Бярэ Эн пад руку. Абое знікаюць у дзвярах. Уваходзяць Маці і Суседка.

**Маці** Жэнька расказала. Як шчэ у тым падвале жыла... То адзін прыходзіў поначы ды ўсё ў вокны зазіраў. І так ціхенька ў шыбку. Шкрэб-шкрэб, шкрэб-шкрэб.

**Суседка** Да ты шчо? Звар'яцець можна.

**Маці** Цяпер відны чалавек у іх. А тая калечка? З малой... Усё вермутам яе паіла. Ці, можа, мужык у яе калека? Чуеш, нешта не едзе доўга? Дачушка мая!..

**Суседка** Або — зайшоў хто да яе?

**Маці** Хто ж перад такою дарогаю нязваны заходзіць?

У праёме дзвярэй на імгненне ўзнікае Постаць у форме афіцэра КДБ. Трэск радыё.

**Голас Дыктара** *Не абарві струну рукі. Я не хачу рассстаціца.*

*Твае на поўнач цягнікі, мае на Захад мчацца…*
*І перапоўнены вагон наскрозь чужой бяседай.*
*Ды аблачынкай ля акон – я за табой па следу.*
*Не прагані яе з чала паўночнага світання,*
*Я толькі зараз пачала жыць у імя вяртанння.*

**12.** Перад сталом стаяць усе госці. Уваходзіць Хор. Даносіцца. пагрукванне грому.

**Маці** Кажэ:"Мамо, знакомся." А я як глянула, і рукі закалаціліся.

**Суседка** Ну шчо ты, Маня. Такі ж красівы.

**Маці** Не кажы. Сэрца не падманеш. Ой, гэта ж яшчэ грыбы ў пліце! Згарэлі (*выбягае).*

**Суседка** Людцы, едзе. Бачу!

Усе кідаюцца да дзвярэй, аднак рэзкі трэск прыпыняе агульны рух. Убягае Доктар.

**Доктар** Медсястра сярод вас ёсць? Тэрмінова!

**І-ая Сяброўка** Я крыху працавала.

**Доктар** Мігам у палату. Тры кубікі і не меней.

**2-ая Сяброўка** Можна, дапамагу?

**Доктар** Кіслародную падушку не забудзьце.

Абедзьве знікаюць.

**Паэт** Доктар, вы нас палохаеце?

**Доктар** Палохаюць звычайна ворагі. А ні ў вас, ні ў яе ворагаў..

**Паэт** Вядома, няма.

**1-ая Сяброўка (***здалёк)* Семнаццаць хвілін, доктар!

**2-ая Сяброўка** Жывая, але..

**Доктар** Падключайце да апаратуры.

Уваходзяць Анёлы. Становяцца каля дзвярэй. Як нябесная варта.

**Анёл чорны** Ім наіўна падаецца, што ўсё рашаецца на зямлі.

**Анёл белы** Яны не ведаюць галоўнага — якое бясконцае змаганне ідзе за кожную геніяльную душу. А таму пачуваюцца яшчэ такімі шчаслівымі.

**Анёл чорны** А таму адчуваюць сябе вінаватымі.

**Голас дыктара** Гаворыць беларускае ра-ды-ё.

Крытык кідаецца наперад. У праёме ўзнікае Постаць у форме афіцэра КДБ. Крытык падае, як ад моцнага ўдару, з цяжкасцю падымаецца.

**Паэт** Можа, кроў патрэбна?

**Крытык** Я люблю. Я ўсё жыццё любіў толькі яе адну. Яна – адзіная

**Сэкстан** Яна непаўторная хоць бы ў гэтым!

**Крытык** Доктар! Ну, зрабіце! *(Паэту )*А яна ж цягнулася толькі да вас, да майстроў! *“Зямля , мая калыска!*
*Табе адной відаць,*
*Што немагчыма нізка –*
*Ні падаць, ні лятаць.”*

**Паэт** Не мо-жа быць...Такое не-маг-чы-ма.

**Крытык** вы ж умееце рабіць такія аперацыі.

**Сэкстан** У нас ужо нават перасаджваець сэрцы.

**Крытык** Вазьміце маё! У нас адна група крыві... У нас адно жыццё! Чуеце? Няхай будзе адно сэрца на дваіх.

**Паэт** Яе дакументы ляжаць у Маскве! На зацвярджэнні. Яе чакае **такая** пасада!

**Доктар** Ну вось!А вы кажаце, не можа быць ворагаў.

**Паэт** Я вам загадваю, доктар. Я — старшыня камісіі...

Доктар махае рукою. У упакой уваходзяць Сяброўкі.

**2-ая Сяброўка** Яшчэ — восем!

**1-ая Сяброўка** Восем хвілін...

**Паэт** Яна любіць усіх нас і цяпер.

**Настаўнік** Господи Сердцевидче! Се оставляю дом Твой незатворен никому же…

**Голас Паэтэсы** *“Добры дзень вам, землякі… Сонейка-крылацейка!”*

Уваходзіць Маці з караваем на ручніку.

**Маці** Людонькы мoі... А шчо то?

Вецер зрывае фіранкі. Усё са звонам падае са стала на падлогу.

На экране праёму — Паэтэса. Убягае Брат.

**Брат** Ды што вы заладзілі? Там нехта памірае, а мы... А мы з загсу сястру чакаем! Такую сястру! А ну… Раз! (*узмах рукою).*

**Хор** Чырво-о-о...

**Брат** Два!

**Хор**...ная вішня З-пад кораня вышла...

**Брат** (*узмах рукою).*Тры!

**Хор** Аддала ж мяне-е маці, дзе я не прывык...

На стале раптоўна ўспыхваюць свечкі. Анёлы падымаюць крылы.

Нябёсы паволі фарбоўваюцца ў барвянасць.

*ЦІШЫНЯ*

## V. ЭПАС
### *“Чарацінка чакання”( зб.На ўзлёце дня”*
### *“Выйду з сэрцам...” – зб. “Метраном”*
### *Шлях палачанкі (Першы нацыянальны хрысціянскі эпас)*
### *Майму Чалавеку*

## ШЛЯХ ПАЛАЧАНКІ
## *ПЕРШЫ БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ХРЫСЦІЯНСКІ ЭПАС*[2]

Час і месца дзеі — XII ст., Полаччына. У цэнтры аповяду — адмаўленне ад спакусаў жыцця  і навяртанне да веры знакамітай князёўны Падславы: спадчынніцы Усяслава Чарадзея і Хрысціцеля славян Уладзіміра. Яе перамога над жорсткімі законамі сярэднявечча была засведчана прыходам Анёла, які блаславіў будучую Апякунку на ігуменскае служэнне Айчыне. Менавіта гэтая кульмінацыя вянчае сакральны шлях Прадславы  ад юніцы-князёўны да да велічнай Еўфрасінні. Сярод герояў эпасу, акрамя галоўнай гераіні, яе бацька-князь Святаслаў, запалоцкі валадар Барыслаў, смаленскі княжыч Дабраслаў, баярская дачка Веранія, майстра Лазар, епіскап, а таксама сілы цемры і святла начале з Анёлам і Д’яблам,  сяляне, воіны, баяры і рамеснікі, увесь народ.

**ПРАЛОГ**
**Недзе між Небам і Зямлёй**

**АНЁЛ: -** О, Дух Святы! Між цемры і святла
Ў жыццё зямное зноў душа прышла.
Што скажуць ёй скрыжалі ўсіх быцій?
Хто пераможа тут? Ці голуб дня, ці змій?
Дарогі дзве. Дзве існасці на шалях.
Што прыме чалавек у тых скрыжалях?
Раскошы бляск, улады гонар, славу…
Ці  ў келлі послух? Выбар ваш па праву.
Бо кожны раз, як родзіцца малое,
Прыходзяць разам з ім Гасподні воі.
А з нараджэннем прасвятым Хрыстовым
У свет аб’явіцца з вас кожны быццам знову.
Ёсць чара вечнасці! І кожны п’е напой—

[2] Першым беларускім хрысціянскім эпасам твор быў названы адным са святароў Свята-Петрапаўлаўскага сабора г. Мінска. Лібрэта аднайменнай оперы створана пры ўдзеле С. Макарэя і А. Залетнева.
Асобныя тэксты змяшчаліся ў рамане “ Пакліканыя” і драме “Крыж ігуменні”.

Атруту ці прычасце з чашы той.
Там святасць перамешана з няславай,
Ды кожны вып'е свой напой па справах.

**СВЯТЛО: -** Сумленнем, праўдай, вераю ў душы,
*хор* Святлом прачыстым цемру сакрушы.
Хай дабрадзейнасць ад грахоўнай цвілі
Вас ачышчае ў быцці бяссільным.
Хай галубінае крыло у душных спратах
Распіліць вострым промнем цемры краты.
Хай будзе святасці святло тваёй пакровай.
Малітва – лесвіца душы з магільных сховаў.
Калі ж заблудзішся ў пароках і ў грахах,
То з чашы вып'еш ты атруты жах.
Жыццё, як міг! Будзь мудрым, чалавек!
Ў пустых спакусах не марнуй свой век.

**Д'ЯБАЛ: -** О, Вечны Дух! Між поначчу і днём,
Паміж малітвамі і д'ябальскім агнём…
З крыві і святасці скрыжалі ўсіх быцій,
Хоць адступае перад сонцам вечны Змій!
Ды кожны раз, як немаўля народзяць,
І бесы разам з ім у свет прыходзяць.
А з імі напаўняюць брудам вас
Клаакі пекла, звады без прыкрас.
Бурліць жыццё зямное, нібы рой.
О чалавек, скажы нам выбар свой.
Грахоў жарсцёю поўні маладосць.
Імгненне кожнае жыві, як вольны госць.
Хітрэй змяі пяшчотных дзеў краса,
Пятлі спраўней распусніцы каса.
Дзявочай прыгажосці зведай сілу,
Што столькі вояў без мяча скасіла.
Спазнай багацце, ўлады бляск і скверну…
Ўсё пражыві, што рай ужо не верне.
Ў гардыні славы зведай гон бязмежны,
Нізрынься ў хмельны шал, адолей час.
І зразумей — няма людзей бязгрэшных,
А дзеў пакорлівасць заўжды мацней за нас.
Жыццё – агонь, а не ад свечак дым,
Будзь непакорным, дзёрзкім, маладым!

Палай кастром. Будзь мудрым, чалавек!
Пустой малітвай не марнуй свой век.

**БЕСЫ: -** Спяшайся у зямных выгодах жыць.
Што недалюблена, пасля – не далюбіць.
Спакусы, похаць і аблудлівасць хлусні…
Не будзь рабом, а сам другіх сагні.
Што з чары не дапіта – не дап'еш,
У келлі жорсткай мякка не заснеш.
Вастрэй ад стрэл бывае бляск вачэй,
А похаць — як атрута для начэй.
Пакуты рэўнасці, грахоў салодкіх церні,
Кахання шал — ніякі рай не верне.
Адрыньце мроі, зацугляйце свет, —
Хай шлях ваш блісне ў золаце манет.
Паміж малітвамі і пеклам быція
Ёсць, чалавек, дарога і твая.
Хто пераможа ў ёй — галубка ці змяя?

## ДЗЕЯ ПЕРШАЯ
## КАРЦІНА І.

***Сцэна 1. Велічнае сонца асвятляе маляўнічую паляну на беразе Дзвіны. Удалечыні княжы харом і царква. Адтуль і прыйшла сюды гожая Прадслава***

**ХОР АНЁЛАЎ**(*здалёк*): - Сонца храм падымаецца ўранні
Над смугой берагоў Іярдані.

**ПРАДСЛАВА**: - Свіціся, ранак, цёпла і прыветна.
Святло тваё маю душу прасветліць.
Сафіі звон, як птах, здалёк нясецца...
Кроў Уладзіміра з хрышчэння б'ецца ў сэрцы.
І лік Гасподзен па усёй зямлі.
Уразумі і літасць нам пашлі.
Між зор на кроснах дні людзей напяты.
Штукуе Майстра з бед людскіх і святаў
Дыван зямлі, народны ўзор быцця.
Узор з адвечнай спадчынай зліцця.
Мне сон прысніўся! Спрэчку чула ноччу.
Там бліскавіцы асляпілі вочы.
Узмахі крыл шугалі між прастораў.

Анёлаў спевы чула, бесаў хоры,
Калі сваё мне кожны абяцаў.
То срэбра бляск, то мір сям'і, то церні,
То благадаць малітвы ў ціхай келлі…
Але запрагла сэрца толькі кнігі,
Мне думкі пра замужжа — як вярыгі.
Прымаю я адзіны толькі шлях—
З прасветлаю малітвай па начах.
Між абразоў, у думках з Маці Божай
Душа мая адолець страсці зможа.
Але чаму, як промень паміж зорак,
У снах так дзіўна часам блісне — позірк…
Той позірк у душы й цяпер, здаецца.
І так шчымліва замірае сэрца.

***З-за дрэва выбягае Веранія***

**ВЕРАНІЯ:** **-** І ты пра сны!? Ой, хлусяць нам яны!
Прысніла, чую, позірк жаніха?
І ў келлі, значыць, блізка да граха!
Ў царкве з маленства ты. Ў мяне ж гарачы нораў.
Аднак сябруем разам год каторы! А мы падобныя!
Глядзі! Вачыма, вуснамі… І розныя наўздзіў.
А ты - красуня! З гэткім хараством
Трымала б княжычаў я моцным павадком!
І не кажы мне пра пабожны шлях,
З пастамі ды малітвай па начах.
Такое для калек, блудніц, убогіх, што ад людзей
Хаваюцца у Бога. Ні жаніхоў няма у іх, ні дома.
Ў царкве грахі прыхоўваюць свядома.
Купалле сёння! Грэшны пал кахання
Пры вогнішчы збярэ нас да світання!
Ёсць і ў мяне, прызнаюся, абраннік! Так часта ноччу
Ў патаемных мроях на мяккім ложы песціла яго я!
Забудзь пра кнігі ды хадзем са мной! Абраннік сёння
Знойдзецца і твой. Хай ноч пачнецца ў хмельных
Пацалунках! Вянкі дзяўчаты пусцяць па рацэ.
Да сэрца – сэрца. І рука ў руцэ.
Каханне шал агнём сагрэе нас.
З чаканым князем не змарную час.
Купалля кветка шчасце абяцае.
Ты ўся ў малітве! Я ж грахі ўслаўляю!

Уборы гожыя, манет бліскучых звон! Вось хараства
Дзявочага палон. Красуні лёс – кахай ды спакушай.
Нам кнігі — пекла. Нам каханне - рай.
Але майго, глядзі, — не зачапай! *разыходзяцца*

***Сцэна 2. Тая ж паляна. Народ весела рыхтуецца да свята. Дзецюкі зносяць сухастой; дзяўчаты віюць вянкі і спяваюць баладу; сярод усіх Лазар з дудачкай***

**СЯЛЯНКІ:** - Ачнулася дзявіца сярод мора.
Ай, божа мой мілы, што за доля...
Выпраўляець да шлюбу ясен месяц,
Накладаець скрыначку ясна зорка.
Паязджаець са мною сіне мора,
Расплятаець косачкі буйны вецер.
***Лазар спрабуе падыграць баладзе на дудачцы***
**СЕЛЯНІН-1: -** Прэч, блазен! Гыля! Дай дзеўкам паспяваці.
**СЕЛЯНІН-2: -** Граць навучыся, а не дзюркі затыкаць. Ха-ха-ха!
Ну вось і сам зламаў свае свістулькі.
**ПРАДСЛАВА:-** Што робіце вы? Зневажаеце пашто?
**СЕЛЯНІН- 1: -**А што яму ты зробіш? Граць не ўмее...
**СЕЛЯНІН- 2:** - Толькі спяваці нашым дзеўкам замінае.
**ПРАДСЛАВА: -** Ён чалавек, як ты, як ты, як я.
**СЕЛЯНІН- 1:** - Ці ж гэта чалавек? Штукар дый годзе.
Што возьмеш ты з яго? З музыкі, кажуць,
Хлеб тут невялікі. А як па мне, ніякі!
**СЕЛЯНІН- 2: - О**х, марнота! Каму патрэбны гэтакі занятак?
Лепш да купальскай кветкі йсці па шчасце.
**ПРАДСЛАВА:**- Не бойся, Лазар, што на свет глядзіш іначай.
Па-свойму майстра ўсю зямельку бачыць.
Хто гоні засявае, ты ж красою
Натоліш нам жыццё, нібы расою.
Няўжо забылі? Перш, чым яблык зняць,
Павінна дрэва кветам веснім адшугаць.
І перш, чым хлеб збярэ народ з палетка,
Павінна поле красаваць улетку.
Узоры гожыя, карункі-вышыванкі
Красою радуюць!Так сонца поўніць ранкі.
Ды толькі людзі часта неразумны.
Мяркуюць – за красу важнейшы гумны.
А згукі песняў? Вось дзе, Лазар, скарбы.

Але ў жыцці ўсё болей скрух і звадаў.
А ты ідзі, не бойся, брат, няпраўды.
Дарма красою грэбуе народ наш.
Не людзі крыўдзяць. Голад б'е наводмаш.
Балюча так: навошта весяў мовы
Князі, ўвесь люд цураюца ў размовах.
О мова родная… Зямлі мае сляза.
Нябёсаў хмарных вечная краса.
Ты лісце клёнаў у маім двары,
Ты клінам жураўлёў звініш згары,
Ўладарскі гнеў і ў келлі свечак бляск.
Як поўня, будучыняй асвячаеш нас.
Ты воя стогн і Боская любоў.
Ты споведзь чыстая і з жыл бурліш, бы кроў.
Табою прычашчаемся ў бядзе,
Ідзем Хрыстовымі слядамі па вадзе.
Са дна калодзежа нясе цябе — вядро,
А кат крукамі чэпіць пад рабро.
Ты крык наш, грэх, дзіцінны плач і смех.
Ты — горла пеўня трэцяга, калі
Знікаюць бесы ўсе з маёй зямлі.
Ты продка дзіда, што касцей цвярдзей.
Сафіі звон ты, горлінка надзей.
Сярод нянавісці і жорсткай глухаты
Мы — будзем жыць, пакуль жывая ты.

***Гучыць рог і на паляну раптам уваходзяць князі. Народ узрушаны***

**НАРОД**: - Хвала буй-туру, князю Святаславу,
Чый герб у годнасці, а востры меч у славе! Хвала!

**СВЯТАСЛАЎ: -** І вам ухвала, люд наш і пагоркі,
Сівой Дзвіны паромы і чаўны,
Вякоў сівых — агністыя патокі,
Дзе над Сафіяю-царквой гудуць званы.
Нас баранілі белыя анёлы
Сярод нягоды мечамі святла.
О слаўся, край наш, курганы і долы,
І радавод з карэння да камля.
Сыны ў нас жэняцца, юніцы замуж мусяць.
Віруе кроў. Прывычны лад жыцця!
Закон з прыродай вечнаю зліцця!

І так расце адвеку княжы род.
І так мацнее з намі наш народ.
Але трывожна мне. Ля межаў грозным боем
Пабілі наш дазор чужыя воі.
Усюды гвалт, агнём пайшлі адрыны.
Баюся, што пара збіраць дружыны.
Нядобры час! Малы, стары, юніцы,
Ўсе бараніць рыхтуйцеся званіцы.
Як ворага страчалі продкі годна,
Рыхтуйцеся і вы усім народам.
Але цяпер хай свята звесяліць.
Умелі прадзеды і паміраць, і жыць.
Купалля ноч, адкрый нам волі квет!..
Хай будзе абярогам сотні лет.
Ніхто ўжо не самкне сягоння воч!
Аддай нам скарбы залатыя, ноч! Ўсім — на Купалле!
Да прыходу дня прасіце дапамогі у агня.

**БАРЫСЛАЎ: -** Аддай і сам дачку! Бяда такая, што і князёўна
Дапаможа краю! Калі прызначана замужжа на вяку,
Пара узвысіць княства праз дачку! Хай княжы зяць казну
Дае, дружыну, а наўзамен вязе дамоў… дзяўчыну!

**СВЯТАСЛАЎ: -** Такі ўжо ёсць! Каб кроў не перапоўніла Дзвіну, я даў адказ
Пасыльным са Смаленску, што да Прадславы іх сватоў – прыму!
Праслаўны родам і казною княжыч сам змовіўся
І абяцаў падмогу. І ўжо з дружынаю сабраўся у дарогу. Але…
Гляджу, дачка вунь там у гурце. Пайду, скажу Прадславе
Навіну. Няхай рыхтуецца да шлюбу з Дабраславам!
А вам усім пара да Перуна, бо паграждае вотчыне вайна.
Даволі ўжо табе, дачка, хавацца. Ёсць воля бацькава
І княжы мой наказ, што з моцным зяцем парадніцца час!
Хоць ты расла паміж прамудрых кніг, красуні нашае
Ужо спяшыць жаніх. Нібы манашка, ты жыла, князёўна,
Аднак вышэй за ўсё нам лёс народа.
Ў пару, як грозяць нашай волі бітвы,
Мячы патрэбны болей, чым малітвы.
Хаця і ўпартая, дзеля народнай справы
Пра нарачонага падумай, час, Прадслава.
Не да тваіх, дачка, цяпер дзівацтваў.

Пра сны дзівосныя расказвай хіба цацкам!
Дзіўлюся я. Няўжо харом заможны
Дзяўчына кволая змяняць на келлю можа?
Няўжо і футра мяккае лісіна табе заменіць…
Грубая радніна? Ідуць ужо смаленскія палкі.
Дзеля падмогі сватаўство — прымаем!
Князёўнаў доля спаконвек ліхая!
Тваю пабожнасць ведаем, Прадслава, але павер: цяпер важней
Дзяржава! Вядома памяркоўнасць палачанак.
Сватоў дружыну мы стрэнем ранкам.

**АНЁЛЫ**: - Злітуйся, Госпадзі і не аддавай ва ўладу злога раба. І згарні ўздыханні яе (*здалёк)* бяссонныя ў лістоту садоў і пялёсткі кветнікаў, у нарды і шапран, у цынамоны і лілеі…
**ПРАДСЛАВА: -** І сказана у Бібліі Мацвеем: “…як звяжаце вы на зямлі
Ў патрэбе, то будзе звязана ўсё гэтак і на небе.
І так, як выштукуе на зямлі наш добры людзе, ўсё так
І ў небе вырашана будзе… Ці ж толькі тое хараство,
Што на аблччы? Ёсць Боскі дар святла. Мяне ён кліча.
Каб вассіяла тут Гасподне слова, замуствам, бацька,
Не карай сурова. Павер: пяро з сямейнага крыла
Ў мяне ударыць можа, як страла. Хто вас малітвамі тады агорне,
Людзі? Хто Багародзіцу за вас умольваць будзе? Нічога мне
Мілей няма ад кніг. Павер жа, бацька любы, што жаніх
Яшчэ не знаны мне. Не ведама каханне дачцэ тваёй,
Бо з Бібліяй да рання айчыне шлях між церня пракладаю.
Ў пару спялення жыта, ў грозны час хачу, каб зелле
Не паўстала з нас! Ў трывожны век не бойкі, не мячы,
А вера моцная нам зможа памагчы. Чакаеце Купалля?
Толькі мне… малітва дзеля вотчыны радней.
**СВЯТАСЛАЎ: -** Хаця і ўпартая, дзеля народнай справы
Пра нарачонага падумай, час, Прадслава! *Сыходзіць)*
***Барыслаў, убачыўшы князёўну, ашаломлена застывае***
**БАРЫСЛАЎ:** - Няўжо яна, няўжо князёўна тая, каго з маленства,
Помніцца, я знаю? Так вырасла! Прызнацца, не чакаў.
Такой красы нідзе не сустракаў! У вочы гляну: студні,
Зорак поўны! Усмешкаю асляпіць нават поўню.
Хоць зведаў пакаёўку не адну, а закахаўся,
Нібы ўпершыню. Краса такая вабіць, абдымае!
Галубкі белай чыстае святло арла сівога ставіць на крыло.

Пабожная, а так бунтуе кроў. Нібыта маладосць вяртае зноў.
Рука пяшчотная шпурляе ў сэрца жар.
Ізноў палае у душы пажар! Хацеў пабрацца з Веранійй,
Ды гатоў цяпер П радславе я прыслаць сватоў.
Але ж смаляне рушылі ўжо ў шлях, пры княжычы сваім…
І пры мячах! Якою хіжасцю змагчы гасцей стамлёных,
Каб не аддаць чужым свае князёўны? О, чалавек! Не ведама табе,
Што сам ты спараджаеш у журбе і чым абернуцца хітроты ці падман!
За мужа аддаю галубку сам! Нібыта расклявау мне сэрца птах.
Сам кінуў сетку я. І сам жа ў нератах! *знікае ў пушчы*
**ВЕРАНІЯ: -** Прымары ночы! З клятвамі кахання, як церні, раняць нас
Расчараванні. Цябе, мой князь, мой Барыславе любы, чакала я,
А прычакала згубу. Што недалюблена, таго у нас няма.
Што непражытае — успамінаць дарма. Красуні юныя,
Цяпер скажу адкрыта: патрэбны воям вы, а не малітвы!
А мы падобныя, Прадслава… Паглядзі! Вачыма, вуснамі!
І розныя надзіў. З накідкай гэтаю царэўна ты нібыта.
На мне ж сягоння просценькая світа. Ды молайцы ўсёроўна
Так глядзяць, нібыта ведаюць адразу, што узяць!
Хоць думаеш пра кнігі ты ў журбе**,** багі здаўна у Полацка свае:
Пярун і Лада, Хорс і сам Ярыла. Жыцця краса і нашых продкаў сіла!
А ты Хрыста ўсё моліш ад грахоў! Але прынаджваеш так спрытна
Жаніхоў. Ой, адбіваеш лоўка жаніхоў! Да Барыслава я, што ланцугом,
Прыкута, а ты, разлучніца, ўліла ў яго атруту. Хоць прад іконамі
Бязгрэшна ладзіш справы, не прабачаю я цябе за Барыслава!
**ПРАДСЛАВА:-** О Веранія! Тут абранніка твайго — не спакушаю!
Я… збягаю ад яго.
***Бяжыць з паляны. Накідка з плячэй князёўны падае і Веранія падымае яе***
**ВЕРАНІЯ: -** Дык мы падобныя? Хоць гэта мне паможа! Няшчырая твая,
Гляджу, пабожнасць; уджаліць сэрца, як змяя, змагла.
Хай будзе помста сёння, як страла. Пярун Купалля,
Да ўзыходу дня прашу падмогі — у твайго агня!

**КАРЦІНА ДРУГАЯ**

**Сцэна 1.** ***На купальскай паляне выбухова ўспыхвае вогнішча, блізу якога віруе карагод. З-за дрэў выглядаюць Бесы***

**ХОР СЯЛЯН: -** Шугай, Купалле! Ўсе зямныя жылы, ўся моц нябесная
Памножаць людзям сілы. Ўсе цені чорныя
І здані векавыя выходзяць з нетраў. Добрыя і злыя.
**-** Калі ж душа ў малітвах не акрэпла,
Успыхне ўся зямля, як спраты лета.

**БЕСЫ: -** На калясніцы вогненных начэй,
Узяўшы ключ ад святасці і пекла,
Паўстань магілай сэрцаў і вачэй,
Каб нас, апоеных крывёй Хрыста, узнесці!
Агнём палаюць грывы коней злых і твары чалавечыя
Ў пачвараў. Накормленыя плоццю ўсіх святых,

**БЕСЫ: -** Растопчам землі і стагоддзяў — мары.
Ў нас жываты даўно ўжо стойлы зла,
Сам грэх віе гняздо ў нутры прыроды. Зламаны рукі словаў…
І з вясла плывуць, як воды, роды і народы. *знікаюць*

**АНЁЛЫ: -** (*здалёк)*Ды ўдарыць з вуснаў грозных меч святла,
І ўспомняць, што Айчына ў іх была!

***Дзяўчат з вянкамі ідуць да ракі… Амаль бясцямны Барыслаў, убачыўшы знаёмую накідку, у гарачкавасці прыймае пераапранутую Веранію за Прадславу***

**БАРЫСЛАЎ:** - Мая князёўна! З адзінокай келлі і ты прышла на грэшныя арэлі!
Ўзнясуць няхай нас пад птушыны трэлі.
Я ночы кланяюся, поўні і агню. О, мой Пярун, чакаў яе адну.
Ці вочы засціў мне купальскі дым? Як доўга я шукаў красу
Такую, што і Пярун магутны зараўнуе. З князёўнай гожай
Гонар пад вянец, займеўшы разам з жонкай і сталец!
Ўсё для каханай — срэбра, гонар, слава… Ўсё аддаю табе,
Мая Прадслава. Свой нораў горды прад табой схіляю.
Здаецца, ўсё жыццё адну кахаю…

**ВЕРАНІЯ: -** А ты не сніш? Ці словам княжым кошты — нявартыя!?
Спяшацца тут навошта? Памылішся на крок —
І ўніз рывок. Адступішся на крок — і ў блуд рывок.
Ці князь не кляўся Вераніі перад тым?
Ці слова княжае, нібыта горкі дым?

***Абое знікаюць за дрэвамі. Праз нейкі час зноў вяртаюцца***

**БАРЫСЛАЎ: -** Не золата, не ўлада, не мячы, ўладарыць шал людзьмі
Сярод начы. Хоць сустракаў дзяўчыну не адну, а закахаўся,
Нібы ўпершыню. Сустрэў цябе , і вецер ацíхае, і сэрца
Ад надзеі замірае. Мая князёўна! Я цябе кахаю.
**ВЕРАНІЯ: -** Я вырастала у келейцы бяссоннай. Нібы галубка,
Ціхая князёўна. Зачынены быў свет на ўсе засовы,
Не чулі свечкі заляцанняў словы….
**БАРЫСЛАЎ: -**Палаю, горліца! Жадаю — у абдоймы
І плысці разам па жыцці да поймы.
Кахаю, любая! Жадаю – у абдоймы…

***Веранія гарэзна бяжыць ад Барыслава. Той і на гэты раз не адстае***

**ХОР СЯЛЯН:** -Купальскай ночы выпеклі ведзьме вочы.
Каб уночы не хадзіла, каб і расы не збірала,
Каб у печы не сушыла, каб у жорнах не малола,
Каб і кашы не варыла, каб і дзяцей
Не карміла… Каб вядзьмят не пладзіла.

***Закаханыя зноў вяртаюцца да вогнішча***

**БАРЫСЛАЎ: -** Да павекаў тваіх цягнуцца дзівы балотныя. Ой-а!
Шчокі асмужаны пухам, лашчацца вавёрыцы.
Толькі абдымі мяне, і заззяеш, як чарацінка,
Месяцам аблітая. Чуеш, як стагну я – рака, прагнучы
Ўліцца ў берагі каленяў тваіх, у строму шалёную.
Ой-а! Хіба не чуеш ты вецер? Як нясе свіст і дзяркатыя
Пошчакі птаства, што раняе з крылаў стогны жадання. Ой-а!
**ВЕРАНІЯ: -** Славяць каханне стыхіі усе на зямлі.
Славяць жарцю маладую лугі і пракосы.
Славяць каханне вятры з крумкачамі і росы.
Славяць каханне пагоркі, даліны, ўсе рэкі і пушчы
На нашай зямлі. Бы полымя, гарыць маё каханне.
Паслухай, князь, дзявочае прызнанне:
Дзе купальскае вогнішча кветам жарсці расцвітае,
Там і сэрца дзявочае першай хвіліны чакае.
Адчыні браму маю трымтлівую, прыдзі ў гай валасоў
Маіх расплеценых, прыляці ў пушчу маю салаўіную,
Агарні пацалункаў салодкімі хмельнымі вецця́мі…
**БАРЫСЛАЎ: -** Там, дзе лось крутарогі б'е зямлю каля маладое ласіцы,
Там і мы зачакаліся ўжо залатое крыніцы.
**ВЕРАНІЯ: -** Колькі сніла начамі я слодыч гарачай хвіліны!

Колькі дзён прачакала ў святліцы! Мой любы! Адзіны!
***Абое аддаюцца страсці. Каля вогнішча чуецца карагодны спеў сялянак***
**СЯЛЯНКІ: -** Сядзела Купалка на плоце. Яе галоўка ў злоце.
Будуць дзевачкі спяваці! Будуць зелейка збіраці,
У старога дзеда пытаці: “Ой, дзеду, дзеду,
А што ж за зелле? Ці не дзявоцкае вяселле?”
**ЛАЗАР: -** Усе баяры важныя ды купцы маюць грошай возікі
Ды капцы. Ах вы, дзеўкі-гусачкі ж вы мае,
Робіць Лазар дудачкі, раздае!
Ой вы дзеўкі- ласачкі, гой — за мной.
Папараці кветачка ў пушчы той! *Усе знікаюць у пушчы*

***Сцэна 2. Тая ж паляна. Каля ачахлага за ноч вогнішча стаіць Лазар. Раптам з пушчы са смехам выбягаюць воі з княжычам Дабраславам***
**ЛАЗАР: -** Ратуйце!.. Чэрці!.. Не? Тады адкуля ? І куды ідзеце?
**ДАБРАСЛАЎ**: -Ў палац да Святаслава. Сватаўство смалян чакае там!
Хоць сам Прадславу і не бачыў я, казалі,
Што вельмі гожая князёўна.
**ЛАЗАР: -** Ха-ха! А як падман?
**ДАБРАСЛАЎ:-** Чуў, што складзе любому князю шчасце,
І ў час вясёлы, і ў ліхім нянасці.
**ЛАЗАР: -** А, можа, хлусяць?
**ДАБРАСЛАЎ: -** Бацькі ўсё зладзілі без нас. Такі закон.
Вось і трывожуся: — усё-такі.- якая ж?
**ЛАЗАР: -** Глухая, кажуць. Ха-ха! Трошачкі сляпая! Сватамі, так і ведай,
Пагарджае! Затое, му-у-драя Але ж… Якой бы гожай ні была
Душа дзяўчыны, спярша на куфры ўсе глядзяць мужчыны.
**ДАБРАСЛАЎ: -**Я на падмогу сам вяду дружыны.
**ЛАЗАР: -** Ой! Да дзяўчыны! Моцныя дружыны? Ха-ха!
***Дабраслаў конча злуе, але раптам гучыць аддалены царкоўны звон***
На службу ранішнюю кліча паству звон.
Пачуй, які густы, салодкі ён.
Ўжо свята адбылі… Ў царкву— пара!
**ДАБРАСЛАЎ:-** І мы спяшым да княжага двара!
***На сцежцы нечакана з’яўляецца Прадслава і Дабраслаў ашаломлена спыняецца***

**ПРАДСЛАВА: -** Накідку я згубіла тут, здаецца.
**ЛАЗАР:** - Накідка што... Было б на месцы сэрца!
**ДАБРАСЛАЎ: - "**Яшчэ ў палац ступіць я не паспеў, а ўжо красуню
Іншую сустрэў! Калі б ісці сватамі ўслед за ёю,
Сумненні б зніклі прад красой такою."
**ПРАДСЛАВА:- "**Але сустрэчны гэты – як спакуса.
З чупрынай чорнаю, як смоль, і гожым вусам."
**ДАБРАСЛАЎ: - "**Для сэрца большае не сустракаў спакусы,
І вочы цёмныя, і гэты косы русы..."
Аднак спяшаемся. Каб не змачыла ног сватоў маіх
Купальская раса, бывай дзяўчына... Звабная краса!
**ПРАДСЛАВА: - "**Што сталася са мной, з маёй душой,
Няўжо мне сэрца прадракае скруху?
Каб шлях жарсці не стаў дарогай здрады,
У Багародзіцы іду пытаць парады." *разыходзяцца*

***Сцэна 3. Пышны харом Святаслава з багатымі гасцямі. Пасярэдзіне — застаўлены прысмакамі стол. Даносіцца смех. Уваходзіць Дабраслаў у акружэнні вояў***
**ДАБРАСЛАЎ: -**Ужо зусім загнаў свайго каня! Куніцу гожую
Сустрэў ля перуна. Шукаў паўсюль яе... *кланяецца гаспадару*
Праслаўны ягамосць!Прадай кунічку мне!
**БАРЫСЛАЎ**: - Які настырны госць.
**СВЯТАСЛАЎ:-**Вітаем княжыча!
**ДАБРАСЛАЎ**: -Прыйшлі зрадніцца мы!
**БАРЫСЛАЎ**: **-**Ударце іх, свяшчэшчэнныя грамы!
**СВЯТАСЛАЎ:** Кунічку згаварыць патрэбна ладам! Прашу усіх я —
Да свайго стала, каб весялей гаворка ў нас пайшла.
Я чашу з вамі сёння падымаю —
За наш народ і непарушнасць краю.
Я п'ю за вас, хто чары ўздыме ўчас.
Хто мечы ўздыме ўчас, я п'ю за вас!
Паходні ў залу! Пры такой нагодзе
Няхай на свята ўсе да нас прыходзяць.
***Залу запаўняе Народ. Пачынаюцца танцы і хор сялянак***
**СЯЛЯНКІ: -** Сваты хаты не ведалі! Сваты хаты не ведалі!
Ды у хлеў заехалі. Далі быку руку!
А з каровай прывіталіся. А з цялушкай...
Цалаваліся. А свіння падзівілася,
Са смеху павалілася. А парасяты-апокі —

Пабраліся ў бокі,  ды пайшлі ў скокі.
***Уваходзіць Епіскап і ўсе адразу змаўкаюць і расступаюцца***
**ЕПІСКАП**: - Сказана: "…а найперш вазьміце шчыт веры, якім зможаце
Пагасіць усе распаленыя стрэлы, апраніцеся ў поўную зброю
Божую; станьце, апаясаўшыся праўдаю і бранёй праведнасці;
Абуйце ногі ў гатовасць абвяшчаць мір  і… пераможаце!"
Ёсць у блажэннае атракавіцы прад Госпадам жыцця наканаванне —
За родны край малітва да світання. З маленства бачыў юную
Князёўну за кнігамі альбо прад абразамі. Ў пабожнасці Прадславы –
Наша слава. Бяда, калі сваты прыйшлі няўчас!
**СВЯТАСЛАЎ: -** А, можа, неба і паслала іх — да нас!?
А, можа, тое Госпада наказ! *Епіскап выходзіць*
Прэбудзь жа,  воля, і ў мячах і ў крылах.
Народ збірае сілы спакваля.
Прэбудзь у пушчах з рэкамі зямля
Ганца пашліце, каб дачка… прышла!!!
**БАРЫСЛАЎ: -** За госця чашу гэту падымаю.
Віно ў агонь тут ноч ператварае.
І з вамі я віно, што хмеліць кроў,
П'ю за цябе, апошняя любоў.
**ДАБРАСЛАЎ: -** П'ю за цябе я, першая любоў.
***Убягае радасны Кмет***
**КМЕТ: -** Дачуўшыся, што госць у нас такі,
Прэч адышлі варожыя палкі.
***Агульнае ўзрушэнне. Пачынаецца танец вояў***
**ТАНЕЦ ВОЯЎ**:-Лесам бегла куніца — ад ліхога малайца.
Полем бегла куніца — ад задзіры малайца.
Лугам бегла куніца— проста ў сеці малайца.
**ХОР СЯЛЯН:  -** Цяпер і вораг прышлы нам няўзнак,
Гарэлка са сватамі п'ецца ўсмак.
Мы вып'ем раз – сватам у нос якраз.
Мы вып'ем два – сватам па галава.
Мы вып'ем тры –за чуб сватоў – бяры.
Чатыры-пяць – зноў можна наліваць.
На шостку-сем быка з рагамі з'м.
На дзевяць -восем цверазею сам.
А на дзесятку дзеўку, гой, прадам.

А там, глядзі, і новая гурма.
І зноў раз-два сватам па галава!

***Барыслаў адводзіць Кмета ўбок і нешта шэпча. Кмет знікае. Барыслаў ідзе да Дабраслава***

**БАРЫСЛАЎ: -** Дачуўшыся, што госць у нас такі, прэч адступілі
Грозныя палкі. Ды годнаю была б сама дзявіца,
Бо мужаў гонар ачарніць — блудніца.

**ДАБРАСЛАЎ: -** Хоць і не бачыў сам, ды чуў: расла між і кніг!
І я цяпер — Ёй верны шчыт… Жаніх!

**БАРЫСЛАЎ: -** А я кажу: няма чаго хваліцца. Са мной была!
Таму кажу – блудніца! Ха-ха! *"Да павекаў тваіх
Цягнуцца дзівы балотныя, лашчацца вавёрыцы…"*

**ДАБРАСЛАЎ: -**Як на таржышчы ты цяпер, Прадслава.
Дзе прадаюць, там — хваляць. І — няславяць.
Князь нарачоную маю пакрыўдзіў словам.
Іду на вы! Мой меч заўжды гатовы.

**БАРЫСЛАЎ: -** Не думаў госця крыўдзіць, толькі праўду
Сказаў табе. А заслужыў — пагарду. *выбягае*

***У залу ўваходзіць Прадслава. Дабраслаў уражаны***

**СВЯТАСЛАЎ: -** Вось і дачка мая…

**ДАБРАСЛАЎ: -"**Няўжо — яна? Краса мая! О шчасце!"

**ПРАДСЛАВА: -"**Расла з маленства я між абразоў і кніг, —
З малітваў прыдзе да мяне і мой жаніх."

**ДАБРАСЛАЎ: -**Змахні, прашу, сляды гарачых слёз,
Па-боску спраўдзім мы з табой наш лёс."

**ПРАДСЛАВА: -"**О колькі дабрыні ў яго вачах…
Здаецца, сніла я той позірк па начах."

**ДАБРАСЛАЎ: -"**Красуні вочы засціць сум пашто?
Альбо нядужыцца, альбо пакрыўдзіў хто?
Як птушка ты — у клетцы залатой,
І я з тваёй пакутай сам не свой.
За хараство, за — Боскі дар святла,
За цягу да навук, за — веры ўменне…
І што — не перад срэбрам на каленях,
А прад іконамі дзяўчына свечкі паліць,
За тое людзі ганьбяць і няславяць.
Манашкі пострыг, альбо лёс Айчыны…
Ўсё пераплецена ў жыцці такой дзяўчыны."

**ПРАДСЛАВА: -**"Калі ў душы пануюць толькі кнігі,
Мне думкі пра замужжа, як вярыгі.
Харом багаты наш, затое бедны край.

Суседзіць з пеклам тут заможны рай.
А ты прышоў… І дзіўна б'ецца кроў,
Шчымліва сэрца памякчэла зноў."

**ДАБРАСЛАЎ: -**"А ты прыйшла… І дзіўна б'ецца кроў,
Шчымліва сэрца памякчэла зноў."

**ПРАДСЛАВА:** -"О, колькі дабрыні ў тваіх вачах.
А мо прыдумала я ўсё у тых начах,
Калі наснілася, што з гожым, светлавокім
Анёлам я ляцела пад аблокі.
І заміралі ветры ў нашых крылах…
Спявала неба і мацнелі сілы."

**ДАБРАСЛАЎ: -**Змахні, прашу, сляды гарачых слёз.
Па-Боску спраўдзім мы з табой наш лёс.
Няволіць ладу не ў намерах нашых.
Хай час міне. Хай час усё пакажа.
Але цяпер сватоў прымі прыветна —
І спынім ворага з табою хоць на лета.

***І раптам рэзкі свіст стралы.***
***Пад роспачныя крыкі:"Здрада! Вайна!"Дабраслаў падае.***
***Воіны ўзносяць яго на шчытах. Зала замірае***

**ВОІНЫ: -** Як мякка ў Полацку нам сёння пасцялілі.
Жаніх, Прадслава, твой ужо ў магіле.
Як холадна ад полацкіх муроў.
З мячамі вернемся назад! І хлыне кроў!

**ПРАДСЛАВА:**- Хрыста ахвярна вассія аблічча; я ўсіх да міру,
Воіны, вас клічу! Як холадна між полацкіх муроў…
Краса дзявочая, ты спарадзіла кроў!

***Воіны з княжычвм на шчытах выходзяць.***
***Прадслава ў роспачы азірае замерлых гасцей***

**ПРАДСЛАВА:**- О родны край мой, курганы і долы.
У Маці Божай позірк невясёлы.
Вас асляпілі ўлада, зайздрасць, грошы!
Сам чалавек забойца тут найбольшы.
Ў грахах ты, свет, пачвара — у каросце.
Да вас ішла, каб несці веры сонца.
Ўсё завяршылася пакутаю бясконцай.
Пасеяць мір спяшала ў родных лядах,
А выспявалі войны і разлады.
Дзеля айчыны свечкай спалымнець
Ішла да вас, а напаткала смерць.
Дзявочыя пачуцці дзеля вас

Знябыць хацела ў гэты грозны час,
Краса і веры скарбы, мроі сну…
Што ж вы прынеслі? — Новую вайну!
Не хоча бацькаўшчына Госпада спазнаць.
З нас кожны вернік і аблудны таць.
Брат забівае брата, бацька – сына…
І сэрца працінае сквапнасць клінам.
Я ў шлях нязнаны — Біблію вазьму!
І меч Хрыстовы абаронаю ад д'ябла.
Што за сталом святочным п'еце, госці?
Крывавы пот Гасподні? Сум дзявочы….
Галгофы нашай кроў, жах навальніцы,
Што абмывае ўжо нябожчыкаў вадзіцай,
І слёзы, што атрутай слепяць вочы?,
Пакуты матчыны, сівых дзядоў праклёны
І немаўлят-ягнятак вешчы стогны,
Званоў Сафійскіх вечную тугу..
Шукаць сябе у новы шлях іду!

***Знікае з палаца .Здалёк чуецца хор анёлаў***

**ХОР АНЁЛАЎ**: - Каб не было любові з намі,
Паўсталі б людзі на нас, жывых…
Нас яны праглынулі б;
І загарэлася б ятра у іх на нас,
І воды патапілі б усіх, і паток пайшоў бы вірамі
Над душою нашаю…
Дабраславёны Гасподзь, што не даў нас на здабычу
Хіжым зубам, і душы нашы ўзляцелі радасна,
Як птушкі з сеці лаўцовай.
І сетка згубная парвана ўся.
І мы з вамі вызваліліся.

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ**
**КАРЦІНА ПЕРШАЯ**

***Сцэна 1. недзе між Небам і Зямлёй барацьба Дабра і Зла***
***Сцэна 2. Мінула восем гадоў. Паляна запоўнена ўзбуджаным народам. Сярод усіх Лазар і Прадслава з глыбока апушчаным на твар каптуром***

**ХОР НАРОДА:** - Прастор зямны! Плыве жыццё за векавыя долы.
Радзінны кут і хмарны, і вясёлы.
Цямнее бор, квітнее ў сонцы неба…

О родны гожы край! Ды толькі хлеба
Жыццё нам не дае для мірнай згоды.
Свае ж баяры – на бядзе народа
Жыруюць сквапна… Нам жа на вадзе
Нялёгка выстаяць. О марны лёс, нішчымны.
Як дзеці кінутыя мы ў свае Радзімы.
Ды й ворагі агнём пускаюць весі,
Даводзячы сямейкі да галечы,
Ці ж паміраць нам з дзецьмі, калі побач
Мяды ліюцца, пір ідзе ў палацах?
А, можа, час і за сякеры брацца?
Хвала табе, народа грозны бунт!
Адчынім свірны, гнеў успыхне ўсюд…
Нядоля наша, моца ты і злосць.
Няма спагады, крыўда толькі ёсць!
Дружна ў княстве мы жывом!
Слаўся, наш згалелы дом!
Ўсіх крывасмокаў час падняць на вілы.
Страшней ты, голад, ад сырой магілы.
Праклясце бедных без двара і слова!
На бунт пара! І грозны, і вясёлы…
Дружна ў княстве мы жывом!
Слаўся, наш згалелы дом!
Усюды корчмы п'яныя стаяць!
Там лепш не думаць. Лепей — пагуляць!
Усюды крыўды, голь і бруду гаць.
Блудніцамі ў баяр дачушкі спяць!
Спакусы, здрады, звады і хлусня,
Паходні княжыя ўначы і морак дня…
Сыночкі з торбамі, як жабракі, стаяць!
За грошы брата могуць тут прадаць!
Каб і сыцейшым, і вяльможным стаць.
О голад, клікнуў ты народ з двара.
Вастрыце косы, помсціцца — пара!
Дружна ў княстве мы жывом!
Слаўся наш вар'яцкі дом!

***З натоўпу выходзіць Прадслава з глыбокім манаскім каптуром на твары***

**ПРАДСЛАВА: -** Спыніся, мой народзе, люд пабожны…
Заб'еш баярына – ды іншы зноў прыходзіць.
Братазабойства – страшны грэх, смяротны.

Бо вораг месціцца у нашай жа душы.
Пачніце будаваць саміх сябе,
Ўзвядзіце самі, людзі, ўласны храм.
Малітва Госпаду ўзнясецца шчыра там.
Дзе ёсць духоўны хлеб, хлябы зямныя – будуць.
Анёлы нас удзячна не забудуць.

**СЕЛЯНІН -1: -** Пра што ты кажаш?! Бунту хоча гурт!
**СЕЛЯНІН -2: -** А ты нас астуджаеш марпна тут!
**ЛАЗАР:** - Паслухайце манашку ў цяжкі час,
Каб у адзін кулак сабрала нас,
Каб з цемры вывела яна увесь народ.
Збудуем храм надзеяў пасярод.
**СЕЛЯНІН- 1: -** А я скажу вам, што ў трывожны час —
Ўсе ў храме роўныя! Так-так! Для князя і для нас
Адна там ёсць, вялікая душа. Ха-ха…
**СЕЛЯНІН- 2: -** То пойдзем пашукаем тую тлустую душу…
Калі ж разумная такая, вось з гэтай Бібліяй —
Ідзем і разам долю – пашукаем!
**СЕЛЯНІН- 1: -** Спяшы смялей да князя і скажы, як вотчыне, яго народу—
Блага! А мы на смеласць дзеўкі паглядзім са смехам! Ха-ха!
**СЕЛЯНІН- 2: -** Адчынім свірны, гнеў успыхне ўсюд…
Хвала табе, народа грозны бунт!

**Сцэна 3.** ***Пышныя харомы князя Барыслава*. *У крэсле – сам гаспадар***

**БАРЫСЛАЎ: -** Ў сумоце думкі наплываюць пра айчыну. Гляджу: ўсё болей
Разбураецца наш край. Хоць сам багаты і магутны князь я,
Але народ мой бедны, зганьбаваны і тацямі находнымі,
І намі ж! О, маладосць, о мройлівы запал, калі так сніў
Пра дальнія паходы, пра подзвігі дзеля юніцы гожай!
І вось мінула… восем летаў з той пары, як знікла неспадзеў
Мая Прадслава!. З харомаў бацькавых, але не з горкіх дум!
Хоць Веранію сам прывёў я ўжонкі…Ды восем летаў я
Прадславу па начах адну кахаю у купальскіх снах!
О, маладосць мая! О мройлівы запал, калі наш люд
Узбагаціць я думаў дзеля квітнення роднае дзяржавы.
Ды час мінуў, і бачу шлях бясслаўны.
Ўсё сталася насуперак надзеям!Так і да бунту хутка,
Бо цярпенне канчаецца і ў ёлупаў рахманых.
Але палац – надзейны мой і моцны!

У сховах markdownрознае дабро, шмат жываціны. Але не так, бы ў Ноя,
Не па асобных парах. У стайнях — коней табуны, авечкі у кашарах.
Ў двары птушыны хмары, ўсюды статкі… I вось цяпер,
Калі спаўна дастатку, прыйшоў у край наш мор!
I гінуць смерды. Бо гультаі, бяздары, недарэкі.
Ці можа смерд назвацца Чалавекам?
Нас раздзялілі не вароты… Краты!
I чым бядней, тым злейшы смерд упарты.
Ў злабе гатовы пасягнуць на князя…

***Убягае Кмет. На яго голас прыходзяць Веранія і Епіскап***

**КМЕТ: -** Ў валоданнях тваіх, мой князь, даўно з'явілася кабета,
Вакол якой збіраецца народ. Бо падбухторвае яна усіх…
Да бунту! Цяпер сама іх і вядзе ў палац. Умее так сказаць,
Пераканаць, што трэба князю варту ўсю падняць.
Галодны смерд, як ваўкалак зацяты. Не мае ні развагі ён,
Ні страху! Пачаўся бунт. Сюды яны ідуць!..
Паасцярожней, валадар, з крывавым святам.

**ВЕРАНІЯ:** - А, можа, ўсю дружыну ў бойку ўзяць? Вось гэта смех!
Якая там кабета? Ці можа кволая звычайная жанчына
Падняць на бунт рахманы той народ? Прысніў ты, кмет!
Я чула, гэта бедная манашка. Скажы мне, як адна жанчына
Можа пагрозай быць для князя і дзяржавы?
Нам толькі варыва у галаве, карункаў сцюжа,
Сямейным шчасцем цешымся, замужжам.

**ЕПІСКАП**: -Аднак нязможная малітвы шчырай сіла,
Калі **Гасподню** волю спраўджвае жанчына.
Паслухай лепей, Барыслаў, а з чым ідзе твой люд.
Народа голас – гэта голас Божы. *выходзіць*

***Здалёк даносіцца хор сялян***

**ХОР СЯЛЯН:** -Усюды крыўды, голь, нядолі гаць.
Блудніцамі ў баяр дачушкі спяць!
Прымусы, здрады, звады і хлусня,
Хаўрусы княжыя ўначы і морак дня.
Сыночкі з торбамі на паперцях стаяць!
За срэбра можаце вы родны край прадаць!

**КМЕТ: -** Ну вось і дачакаліся. Ідуць.
Яны – ўжо тут! Пара і за падмогай… *знікае.*

***У харомы ўвальваецца распаленые гневам гурт***

**ХОР СЯЛЯН:** - Сыночкі з торбамі, як жабракі, стаяць!
За срэбра могуць і бацькоў прадаць.
О голад, ты вядзеш народ з двара.

Бярыце косы, помсціцца — пара!
Жыццёвы мор! Калі ўжо лёс такі,
За вілы лепш узяцца, мужыкі,
І брух у князя сытага ўспароць!
Нацешыць нас галодны бунт стокроць.

**БАРЫСЛАЎ: -** Хто тут галоўны? *грозна падымаецца*

***Манашка выступае наперад і Веранія адразу адступае і знікае...***

**ПРАДСЛАВА: -** Гатова я адказваць. Хоць з келлі мірнае прышла сюды здалёк.

**ЛАЗАР: -** Мы верым, князь. Мы верым той чарніцы!

**СЕЛЯНІН-1: -** Але скажы спярша, пашто палац жыруе,
Калі народ над сошанькай бядуе?!

**СЕЛЯНІН-2:** - **-** Эх, разгарнуць касу даўно пара
І кровушку пусціць з твайго двара!
Народ адказ да рання пачакае.

**ЛАЗАР:** **-** Галоднага пагібель — не лякае!
Мы людзі, князь, і хочам жыць па-людску.

***Сяляне падымаюць косы. У харом убягае ўзброеная варта з Кметам***

**БАРЫСЛАЎ: -** Я толькі знак падам, і выйдзе з берагоў
Дзвіна, напоўненая смердавай глупотай!

**ПРАДСЛАВА:-**Пара ўжо мірам, княжа, гаварыць,
З надзеяй і Хрыстовым запаветам.
Усе мы дзеці роднае зямлі. Спыніць хачу
Смяротны пір няўчасны…
Малітва ў сэрцы ззяе непагасна!
Крывавы вузел вера нам развяжа і шлях народу
Сам Гасподзь пакажа! Ідзіце з мірам!

***Узносіць Евангелле. Людзі і варта выходзяць***

**БАРЫСЛАЎ: -** Чаго ж чакаеш ад мяне? Ці псоў каб я спусціў,
Ці клікнуў грозных мечнікаў на конях?
Спазнаеце вы княжы гнеў сягоння,
Мячы і стрэлы кожнага дагоняць.

**ПРАДСЛАВА:-**Прыйшла з народам я ў пару галадамору,
Каб мірна змеркаваць ліхія справы
І, аб'яднаўшыся, пабудаваць агульны храм.
Бо толькі разам зможа люд гаротны пазбыць галечу,
Адолець голад і адкінуць прэч варожыя набегі,
Навукі і рамёствы ўсе займець
І выйсці з цемры па дарозе волі.

Прамудрым стаў ты, князь, палац, што крэпасць.
Ты моцным стаў, але адно каб здраджваць
Народу беднаму і мройнасцям юнацтва.

**БАРЫСЛАЎ:** - Пярэчыць князю больш чым самагубства.
Да раніцы ты ў жаху тут прабудзеш,
Пакуль прыдумаю я кару ўсім за бунт.
Вярну дружыну зноў, крывёй залье ўсё тут.
Хай кожны з іх заплоціць мне за неслух!
І ў жабрака схаваны недзе грош. А ўсё сабраць,
І вось табе капа. Яна мая! А храм? Хай князю плоцяць!
Ты ж заставайся…Ха-ха! Пад аховай варты.
Пакуль прыму суровае рашэнне.

**ПРАДСЛАВА:-** Прашу, дазволь за ўсіх, за князя і народ, мне у самоце
Памаліцца, бы ў капліцы. Каб зразумеў, як можна…
Памыліцца! Каб зразумеў ты, князь:
Хоць і зглеў народ, як пот крывавы, ён апошнія капейкі
Аддасць на храм свій, дух ачысціць верай. І ты адумайся,
Бо не хапае толькі таго, што князь нам выдзеліць на крыж.
Вось толькі майстра годнага знайду…

**БАРЫСЛАЎ:** Лепш памаліся, каб жывой застацца.

КАРЦІНА ДРУГАЯ

***Сцэна 1. У апусцелай зале стол, на якім стаіць срэбны келіх. Уваходзіць Веранія. Выймае з упрыгожання чорную бонку***

**ВЕРАНІЯ: -** Пазнала я! Прыкрыўшыся манаскаю апраткай,
Так неспадзеў яна з'явілася…
Калі ўсе думалі, што згінула Прадслава.
Аднак, хоць княжая дачка мая сяброўка, але ж разлучніца!
Каб не пазнаў няўчасна Барыслаў свае Прадславы гожай, —
Ратуй мне шлюб, напой атрутнай смерці!
Суперніца яна…І варта толькі згубы!

***Вылівае з бонкі атруту ў келіх***

Атрута з блёкату і жоўчы гадаўя!
Настоена на ведзьміных пракляццях,
Насычаная ў палыне магільным,
Даспела ў сукравіцы скінутых дзяцей,
Нянавісцю прасякнута, злабою, хваробамі і хцівасці
Хлуснёю. Хай вып'е!.. Толькі певень праспявае,
Пачне атрута дзейнічаць спаўна.

Спярша адымуцца і рукі ёй, і ногі…
Затым пакутліва прыпыніцца дыханне…
Падслава ў страшных корчах тут — сканае,
Так і не зведаўшы, у чым яе віна.
Ды хто з нас ведае, за што жыцця атруту
Мы п’ем з пачатку да апошняе мінуты?
Як сон гадзюкі, вы, краплiны смерці,
Кіпелі доўга на агні пякельным.
Але пара ўжо сёння спраўдзіць кару!
Для ненавісніцы апошняй хвіляй станьце!
У векі ўсе красу і чысціню тапілі людзі,
Спальвалі ў агні! Мінаюць леты, сыдзе й гэты год.
Не можа чыстае душы прыняць народ.
Хто не падобны на усіх, такі для нас, як вораг.
Ад здрады — да злачынства! Вось мой шлях.
Ўсе людзі патанаюць у грахах! Пачуйце, продкі!
Вашай літасці прашу. Пярун і Лада! Вас манашка…
Не прызнае! Не моліцца, а ганьбіць. Адно Хрыста
Ухвальвае свайго. Пярун і Лада! Дапамажыце мне ў правіне.
Сябе і вас цяпер — абараніць павінна!

***Уваходзіць Прадслава***

**ПРАДСЛАВА: -** “Ўсе людзі патанаюць у грахах!”
Пачула голас твой і я з майго бяссоння.
Малітва прывяла мяне сюды. А помніш?..
Некалі ў маленстве сябравалі і спазнавалі
Колеры і гукі заўсёды ў гурце мы! Супольна ўсё,
Як сёстры, спасцігалі. Дабро і зло… Яны заўжды былі,
Што ноч і дзень, ці раніца ды вечар!
Як я спяшалася да зор на кніжак веча,
Так ты ля вогнішча кахання прагла.
І адшукала, бачу, шчасце з Барыславам.
Але трывожуся за твой гнятлівы стан.
О так, нямала між людзьмі ліхіх спакусаў.
Але патрэбна каяцца прад Богам,
Каб чыстай вераю змываць кару з душы!
Не забываюцца ні здрада, ні падман.
Цяжэй за ўсё нам ад сардэчных ран.
Але павер — ёсць іншы боль, павер мне,
Калі прызнанні кроіць нож нявер’я.
Між намі столькі гора і галечы.
Спаліць гатова сэрца, нібы свечку!

**ВЕРАНІЯ:** - Зноў павучаеш, але ўласны лёс – не знаеш.
Нібы ў балоце, гразнуць нашы людзі
У здрадзе, у нікчэмнасці, у брудзе…
І верыць ім — як лесу ў добры дым!
**ПРАДСЛАВА:** -Як нам расказвае Пісанне, нават Пётра
Не верыў сам у здрадлівасць сваю.
Ды сказана было Хрыстом для вучня:
"І трэці певень нат не праспявае,
Як ты адступішся у страху ад мяне…"
Ці не чакаць і мне той пеўня крык?
**ВЕРАНІЯ:** - Ты што, Прадслава? Не лякай прызнаннем.
**ПРАДСЛАВА:**- Душу, сястра, сціскае прадчуванне.
Нібы мяне чакае страшнае кананне.
**ВЕРАНІЯ:** - Не вер у прадчуванні, слухай ноч.
Пачуеш, як наўкола мірна, ціха,
Нібыта зло усё пахавалася па норах.
Сястру маю з прасветлаю душою
І хіжы звер клыком не закране, змяя не прапаўзе!
Хіба не чуеш, не бачыш ты?.. Во неба ззяе ў зорах,
Як наша даўняя сяброўская прыязнасць.
Парадуемся разам, што нарэшце паразумеліся з табой
У прымірэнні! І за сяброўства, за тваё вяртанне пара ўжо —
Мёд у келіху падняць! Дык выпі гэты вось… *падае келіх*
Што да краёў наліты роднаю рукою.
***Прадслава жагнае келіх. Моліцца***
**ПРАДСЛАВА:** - Уратуй нас, Божа, ад пошасці, бо атрута чалавечая
Уваходзіць, як вада, у нутро і як алей – у косткі.
Каб не апранулі мяне ў сорам, каб не накрылі плечы мае
Ганьбай, бы шатамі… Прашу, Стваральнік, пранясі наўзбоч
Пакутаў здрадных чашу, дзе віно, як ноч. Пашто, слабой,
Мне лёс такі прызначыў? О пранясі гаротны келіх плачу…
І дай па веры ласку мне ў малітве…
***Пад пільным позіркам Веранії выпівае***
**ВЕРАНІЯ:** - Пад каптуром чарніцы я пазнала!
Ты тая, што жыццё маё — зламала.
Я думала, што ты сышла навек!
Але ізноў вярнулася пакута.
Бо варта толькі мужу зразумець,
Што ты не ты, а даўняя Прадслава, і ўміг жыццё маё
Пакоціцца уніз і ператворыцца у немарач і ў пекла!
Але цяпер нарэшце ты, сяброўка,

Вось гэты келіх выпіўшы, заснеш!
Як толькі трэці певень праспявае…
Спачатку анямеюць белы рукі, адыме ногі,
І затым – дыханне! У трашных корчах
Ты памрэш, Прадслава.
Але прад смерцю зведай таямніцу,
Што мне атручвала дасюль усё жыццё.
Ты помніш ноч купальскую, калі,
Прыйшлі з табою мы да перуна
І Барыслаў адразу ж закахаўся!
Але ў цябе, князёўна! Не ў мяне!
А ты, адпрэчыўшы яго прызнанні, збегла.
І што ж? Табою стаць рашыла… я сама!
Ў тваёй накідцы і падобная абліччам,
Змагла прыйсці **табой** да Барыслава!
А потым жонкай стаць яму, дзяцей раджаць пакутна…
Ды толькі сэрца разрывалася, калі ў хвіліны страсці
Ён шаптаў: Прадслава!”
То згінь жа ты ў атруты страшных корчах!
**ПРАДСЛАВА: -** Хутчэй, сястра, пакайся ў час благі.
Твайго жыцця крывяняць берагі.
Іх зацуглялі страсці ланцугі.
Заблыталася ты ў сабе зусім
Як змій, цябе сціскае шалу дым.
Ды толькі іншая любоў на свеце ёсць.
Любоў да Госпада. Яна жарсці мацнейша.
Ўсяк род людскі няверай апантаны.
Малітвамі гаіце, людзі, раны!
Мы – падарожнікі ўсе. І кожны з нас, як госць.
Ды толькі ратаванне душам ёсць.
Жывіце верай і грахоўная атрута вас не адолее
Ні смерцю, ні пакутай!
Ці можна здрадаю змагчы высокі Дух,
Што пад аховаю Гасподняга анёла!?
Пакайся, Веранія, бо здаўна
Мацнейшая за смерць святая вера.
***Абедзьве не заўважаюць уваходзячага Барыслава***
**ВЕРАНІЯ:** - Што мне да Бога, калі ў сэрцы слёзы?
Сям’я мая, каханне — пад пагрозай!
Але чаму не дзейная атрута? Няўжо я
Чыстае віно сюды ўліла? *механічна бярэ келіх,*

Няўжо  наліта ў келіх не атрута
І хмельнае віно іскрыцца тут? А, можа, цуд?
А, можа, стаўся тут з напоем цуд? Але не веру ў цуды я!
І бачу: тут не атрута, толькі хмель салодкі! *n'e*
***Барыслаў, які ўвайшоў крыху раней,  застывае***
**БАРЫСЛАЎ: -**Няўжо, Прадслава, ты? Хаця не веру ў прывіды, але
Ўсё ўбачыў сам і зразумеў нарэшце!
Якая ж ты дзівосная, князёўна.
І Вераніі тут віну убачыў. Але слабыя ўсе  атруты
Свету прад моцаю пабожнае жанчыны.
І перад гэтай сілай незвычайнай
Сам Барыслаў устане на калені! Усе патрабаванні
Ад народа прыму цяпер з пакорай і цярпеннем.
**ВЕРАНІЯ:** - Агонь абняў мяне, як муж, у сне салодкім.
Не чую рук і ног ужо не маю  і пеўня згубны крык…
Сама чакаю. Ў нябыт адчынена ўжо чорнае акно
І бесы скаляцца праз вогненнае дно.
Ўсіх Веранія моліць: прабачайце! І ты, сяброўка,
За смяротны келіх, што не табе, а мне прынёс
Збавенне. А ты, мой любы? Ты думаў, родны,
Што на тым Купаллі з Прадславаю кахаўся?
Але — я! Была там я! А помніш, як спяваў мне:
Чуеш, як стагну я, рака, прагнучы ўліцца
Ў берагі каленяў тваіх?"
Уся ад рэўнасці Згарэла я, сястра. Блукаць між зор
Мая прыйшла пара. Ад рэўнасці згасаю я, сястра!
Маліся перад Богам за мяне, як за усіх  —
Прасветла і прачула.  *Падае на рукі ўбягаючай варты*
**БАРЫСЛАЎ: -** Любоў не бушуе, не шукае свайго, не замышляе ліха,
Не раздражняецца, усё пакрывае, усё прабачае.
Ніколі  не мінаецца,  усё  перамагае!
Пара і мне пакаяцца бясслаўна.
Бо вінаваты  я  у смерці  Дабраслава.
З таго  і пачалася варажнеча, пачаўся гвалт у нас і мор,
Братазабойствы, што ўвесь народ пакрылі, бы каросты.
О край наш, вотчына для блазна і ахвяры! Забыты небам,
Як пустая мара. Што непражытае,  таго у нас — няма
Што недалюблена успамінаць дарма. Палац я маю,
Плодныя палі і воінаў, казну, і сотні стрэх!
Ды пуста  мне ў душы… Халодны снег!
Скажы, дзе выхад?  Адпусці мне грэх.

**ПРАДСЛАВА: -** У аднаго багатага чалавека быў добры ўраджай у полі,

І рашыў: зламаю жытніцы, і збудую большыя, і ссыплю
Ўвесь хлеб мой і — усё дабро маё.
І скажу Душы сваёй: Душа! Многа дабра ляжыць
Дзеля цябе на доўгія гады: супакойся, еж, пі, весяліся!
Але Гасподзь сказаў яму: Вар'ят!
У гэтую ноч вазьму душу ў цябе, і памрэш;
Каму ж дастанецца ўсё, што назапасіў?"
Так бывае з кожным, хто збірае скарбы
Толькі для сябе і багацее не дзеля Госпада.
Сказана: шукайце, людзі, ласку Божую найперш.
Стадолы прадавайце і давайце міласціну бедным.
Узбагацееце штокроць, князі, тады.
Ты ж ахвяруй на храм наш золата зямное і атрымаеш
Царствіе нябёсаў. Не жытніц клеткі, птушку ўзносяць
Крылы. Не срэбра–золата, а дух нам дорыць сілы.
Багацце святасці людской не дапаможа.
Пакайся, князь, ідзі да веры Божай. *Барыслаў выходзіць*

**Сцэна 2.** ***Тая ж зала ў аціхлым палацы. З'яўляецца Анёл.***

**АНЁЛ: -** Няма ў прасторы духу небыцця.
Няма на свеце марнага жыцця.
Выпрабаванне безыменнасцю, князёўна,
Прайшла спаўна. Спакусы ўсе займела,
Пакуты выпіла. Іх поўны келіх мела.
Радзімы горыч сэрцам прыняла.
Вас гнула цемра, нібыта чума,
Ды моцнай воляю адолена яна.
Я прычашчаю гэты край сягоння. Тут цела Госпада.
І кроў тут ёсць Гасподня.
Стань апякункаю. Ратуй сваю зямлю.
Ігуменняю Еўфрасінняй — шлю.
Збудуй абіцель — у глухой мясціне,
І літасць Божая край гэты не пакіне.
У Госпада каменнямі шпурлялі.
Так часта у цябе яны цалялі.
Ды зноў — пара Галгоф каменне браць,
З руінаў людзям храмы падымаць.
Закасваў рукавы для працы гэткай
Галоўны Майстра, Будаўнік сусвету. *знікае*

***Уваходзіць Епіскап***

**ЕПІСКАП**: - Збярыцеся ўсе, хто жыве спакон,
Як анёлы ў пустынях і горах:
Вотракі, яко алені, пераскочыўшы
Прымарны сон. І старыя, адрынуўшы
Немачы порах. Прыспяшайце на трапезу, што
І душу ўзвесяліць, і сыпне дабрачыннасцю ў розум.
Адчыняйце малітваю слых свой,
Каб спеў ратавальны спажыць і ўзрасці
На ворыве гожым Еўфрасінні ігуменні:
Подзвігаў, працы душы і любові яе да Бога.
Бо калі споўнілася ёй дванаццаць летаў, —
Ўзяла уладу над грахоўным светам.
Прэбудзь апоры кропкай хрысціянскай,
Святлом нябёс між ідалаў паганскіх!
Будзь апякункай усяго народу
І крыж ігуменскі — прымі на ўзнагароду.
Мне ў сне Анёл-звястоўнік аб'явіўся
І наказаў аддаць Ігуменскі Сялец
Прамудрай, хоць і юнай Палачанцы…
Каб збудавала там і храм свой, і абіцель! Алілуя.
***Ускладвае на Еўфрасінню крыж, выходзіць. З'яўляецца Барыслаў. Узрушана здымае з пояса каліту***
**БАРЫСЛАЎ: -** Як цяжка зведаць сэнсы быція! Здавалася…
Каханне бараніў я! Кахаў цябе, а страціў Веранію…
Нібы перад сястрой, цяпер схіляю
Я галаў прад табою Палачанка.
Любоў мая — у каянні і веры.
Пакорліва схіляе гонар свой
Князь Барыслаў перад усім народам.
Свае багацці, родны край, аддам…
Хай узнясецца у народным сэрцы храм.
***Аддае манашцы каліту і тая выходзіць. Барыслаў бярэ са стала келіх***
**БАРЫСЛАЎ**: - Я так Прадславай трызніў па начах!
Але ж а долеў з Веранія́й шлях.
Быў у палацы лад, была сям'я,
Ўзляцелі дзеці ўжо з-пад бацькава крыла.
І вось канец. І Веранія ўжо — за вечнай брамай.
І сэнс жыцця… згубіўся нечакана!
Вось — чаша вечнасці. І кожны п'е напой
Па веры і па справах з чашы той.

Святое міра, альбо смерць няславы …
Я выпʼю! Выпʼю свой напой па праву! *пʼе і падае*

**Сцэна 3. *Сярод народа Еўфрасіння ў шатах і Лазар з апушчанай галавою. Еўфрасіння на колькі хвілін ускладвае яму на галаву далоні, і Лазар пад крыкі"Цуд!" быццам прытомнее і ўсміхаецца***

**ЕЎФРАСІННЯ: -** Пакаяўся і перадаў наш князь
Табе, мой Лазар, фарбы, срэбра кайстру.
Патрэбны людзям нашым добры майстра.
Так доўга паміж мрояў-зорак спіш.
Прачніся, Лазар. Людзі просяць крыж.
Не я адна, Гасподзь так майстра любіць,
Што галава балець ужо не будзе.
Бо трэба Лазару крыж вырабіць для храма.
Крыж-абярог — для ўсёй Айчыны брама!

**ХОР НАРОДА: -** О родны край! І хмарны, і вясёлы.
Кляновы ліст, **з**ялёны грай і долы.
Цямнее бор, квітнее неба ў сонцы…
Айчынны край і гон дарог бясконцы.
Ўпадаюць рэкі — і Дзвіна, і Сож, і Нёман
У акіян душы народнай згонам.
Тут майскіх птушак апантаны шчогат,
Зуброў пяшчотных таямнічы рокат,
Прамудрых старцаў сівізна сталетня
І геніяў прачыстыя сакрэты…
Ўсё – ты, радзімая, прабелая зямля.
Кляновы ліст, зялёны грай крыла,
Шумлівы бор, квітнее неба ў сонцы.
Радзімы край, гон бальшакоў бясконцы!
Хвала табе! Хвала зямлі, хвала!

**ЛАЗАР: -** Згадваю: складаў з промняў лесвіцу.
Падымаўся за воблакі! Убачыў Госпада.
Крануўся Ён вачэй маіх і сэрца.
І ўспыхнуў прад вачмі агністы крыж!
О будучыня! Ты ўва мне свіціш!
Грукочуць хмары над маімі думамі,
А зоркі адгукаюцца мне струнамі!
Калодкі на душы і на руках!
Няхай хітнецца пад нагамі Вечны Шлях.
За краты. У калодкі, ў ланцугі.
У добры век. У шчасны. У благі.

Парой і велічных асоб і недарэк
Той, хто адораны, той шчодры чалавек.
Я так скажу. А вы, майстры, ідзіце!
Няма замкоў для зор, дарог, вятроў.
Не пахавайце таленты — у роў.
Хай вашу працу асвячае Дух Святы,
Хай не гняце вас горыч нематы.
Парой і велічных асоб, і недарэк
Той, хто адораны, той — Божы чалавек!
Няхай радзіма скарб на крыж збірае!
Бо срэбра-золата для вечнасці так мала.
Патрэбны ёй і таямніца сэрца,
І боль пакут, што талентам завецца.
Хрыстову кроў і мошчы ўмесціць крыж.
О, Будучыня! Ты ўва мне — свіціш!
Хай стане брамай ад нягодаў новы крыж.

***Пачынаеца рух зорак, што знамянуе будаўніцтва храма***

**МАНАШКІ: -** Призри, Господи, на храм свой. Создахом на Имя Твое.
Да приимша иго Твое легкое на выя своя.
Буди, Господи, нам оружие и забрала.
На тя бо упование наше положихом.

**ЛАЗАР:** *-* Але хто ж вы, летапісцы і майстры-дойліды, валадары
Колераў і гукаў, зоваў і звонаў сярэбраных?
Хто вы, браты нашы юродывыя
Мечамі грозяць, а вы думамі ўзлятаеце.
У ямы кідаюць, а вы, нібы птушкі крылатыя.
Не адступайцеся ж, бессмяротныя,
Ахавайце зямлю родную. То хто ж вы, майстры?

**ЕЎФРАСІННЯ: -** Абраннікі Божыя!
Век пачынаецца. Пара вайны і міру.
Пара пшаніцы чыстай, веры час.
Змяліцеся у жорнах постам шчырым,
Каб не ўзрасло пустое зелле з вас.
Праз дым пажараў, згуб і нематы,
Праз векі векаў у спрадвечнай скрусе
Ідуць мае асветнікі- браты –
Няскораная слава Беларусі.
О, Будучыня! Ты ўва мне свіціш!
Над храмам роднае зямлі — узносім крыж.
Народ мой родны,

Збудаваць тут Спасаў дом
Прыйшла пара, абіцель час узвесці.
Хачу вам вестку добрую спавесці…
Гасподняе жаданне ў будаванні.
Народ у гурт Збярэцца і — пачне!
Я ж у малітве стану перад Спасам…
**МАЛІТВА:** - Будзь літасцівы, Божа, да мяне,
Рабы Твае слёзнай з Полацка.
І з пакутаў маіх злівай срэбныя струны літасці.
Зрабі з храшчоў горла майго нябесны рог!
Каб клікаў адступнікаў…
І на роўнай дарозе, і на полі сечавым.
Пазбаў зямлю маю ад выраджэння,
Ад здрады і нявер'я!
І няхай закінуць рыбакі Твае
Сеці ў азёры вачэй маіх
І прынясуць да ног Тваіх
Рыбін любові бязмежнай.
Маці Багародзіца!
Вазьмі ў майстэрню нябесную
Срэбра грудзей маіх і цноту манаскую,
Дыханні нашы і пачуцці, і словы, якімі
Славім Госпада… І — жылы народу,
Што як вольхаў карэнне сталетнее!
Вазьмі іх, Маці Прасвятая!
Няхай ссукаюць ткаллі Твае
Ніцяў клубкі і сплятуць сарочкі для вояў нябесных,
Каб абаранялі краіну маю родную.
Хвала Табе, Багародзіца. Хвала, зямля-вотчына!
І з рук маіх няхай паўстане мост азораны
Да самага Прастола, каб ляцелі да ног Тваіх, Божа,
Анёлы крылатыя — пакаянні народныя.
Хвала табе, Зямля родная! Хвала, Багародзіца!
…Я пад Апосталаў сандалі, мой Гасподзь,
Сыду цяпер! Дарогай светлай стану.
І будзе з вінаграду харaства
Алей нябесны для Твайго каўша.
І будзе з кветак маладосці мёд!
Ты ж з дрэў Ліданскіх семя ў наш народ
Сыпні для будучыні ў час вясновых крыг,
Парою пакаяння і вярыг.

І Запаветамі прасветлі людзям слых,
І зрок душы ачысці ў родным краі…
Будзь літасцівы, Госпадзі, да нас!

**Сцэна 2.** ***Запоўнены народам прасця пранізваюць сполахі катаклізмаў і грымоты***

**АНЁЛЫ: -** (*здалёк)* Уратуй іх, Уладыка, бо косткі бы сякерай
На трэскі расшчэплены і замутнены вочы іх
Спакусамі, мацнейшымі за розум.
Злітуйся, бо перамагаючы ачышчаюцца
І схіляюцца перад выглядам тваім,
Госпадзі, што падобны
Да каменя яспісу і сардысу,
і смарагду вясёлкавага…

**ХОР НАРОДА: -** О Дух Святы! Між поначчу і днём,
Паміж нябёсамі і пекла чорным дном
Напісаны скрыжылі ўсіх быцій!
Хто пераможа ў людзях— голуб дня ці змій?
О, Дух Святы, Айчыну барані!
Прэбудзь, радзіма, і ў шчытах, і ў крылах...
Прэбудзь у пушчах з рэкамі, зямля…
І ў праведных нябесных моцных жылах,
Дзе будучыня ў неба узрасла…
У пекла і нябёсаў на мяжы
Шукайце шлях свой, людзі, у крыжы!
Свяшчэнны край прадвечнай Еўфрасінні,
Зямля пяра, струны, агню і гліны!
Былі паводкі, спёкі дні і ночы.
Быў родны край знябыты і сірочы…
Аплач жа ўсіх асветнікаў, народ.
Услаў малельнікаў сваіх — манаскі род!
Прыдзі на споведзь, родная краіна.
Нябеснай Маці у імя, Айца і Сына
Гады міналі, руйнаваўся дом,
Дзе мы здаўна працуем і жывём.
Эпохі адшугалі на зямлі…
Былі і ёсць. Мы ёсць. І мы былі…
І бралі мы цвікі з Хрыстовых ран,
І будавалі мы душы народнай храм.
Аплач жа ўсіх асветнікаў, народ.
Услаў малельнікаў сваіх — манаскі род!
О, Дух Святы, Айчыну барані!

Няхай напішуць вечныя скрыжалі,
Што мы адужалі нягоды, мы паўсталі,
Мы расхінулі у блакіце бела крылле….
Змаглі нявер’е, горасці, бяссілле.
Аплач жа воінства святое, мой народ,
Услаў малельнікаў сваіх прасветлы род!
Снягі шугаюць, коцяцца агні,
Вясны краса — зіму слязой лагодзіць.
За пакаленнямі, як водзіцца ў народзе,
Ўжо новыя сыны у свет выходзяць.
Стаім, як свечкі на вятрах тваіх, Айчына,
Нябеснай Маці у імя, Айца і Сына.
О, Дух Святы, Радзіму захілі.
Былі і ёсць. Мы – ёсць! І мы – былі…

## МАГУТНЫ ЗВОН
## 19. 02. 2011

### *КАРОТКІ ЗМЕСТ ЛІБРЭТА*

**ПРАЛОГ.** Недзе між Небам і Зямлёй віруе барацьба светлых і цёмных сіл начале з Анёлам і Д'яблам. Спрадвечныя ворагі змагаюцца за душы людзей, абяцаючы свае перавагі і выгоды. І ўсё ж выбар застаецца за самім чалавекам.

**ДЗЕЯ ПЕРШАЯ.** КАРЦІНА ПЕРШАЯ**.** ***Сцэна 1.*** Велічнае сонца асвятляе паляну на маляўнічым беразе Дзвіны. Удалечыні харомы і царква. Ці не адтуль прыйшла гожая Прадслава? Узрушаная сном пра дабро і зло, адразу прызнаецца, што душа яе прагне толькі кніг і малітваў. Памяць, аднак, трывожыць позірк, які працінаў сэрца падчас палёту яе з Анёлам між зорак. Рамантычны настрой нечакана перапынены — на паляну ўбягае баярская дачка Веранія, што гарэзна высмейвае Прадславу за пабожнасць. Не хавае і зайздрасці да хараства князёўны, хаця абедзьве яны нават падобныя. Але падабенства тое знешняе. Галоўнае для Веранії — ушаноўваць паганскіх багоў і браць ад жыцця ўсе асалоды. Цяпер Веранія спадзяецца на Купалле і начную сустрэчу са сваім таемным абраннікам. Паклікаўшы на свята і Прадславу, абяцае той сустрэчу з сапраўдным каханнем.
***Сцэна 2.*** Паляну шумна запаўняе народ. Сялянкі віюць вянкі і спяваюць, дзецюкі ладуюць вогнішча і кпяць з Лазара, які сваёй дудачкай толькі перашкаджае. Прадслава раіць таму не крыўдаваць на людзей, а шукаць сваю сцяжыну да сапраўднага хараства. І раптам на паляну ўваходзяць князі: сам Святаслаў, бацька Прадславы, і немалады ўжо запалачанін Барыслаў. У голасе Святаслава гучыць трывога: на межы Полаччыны зноў налятаюць варожыя дазоры, а значыць, пара рыхтавацца да вайны… Барыслаў нечакана прапануе князю аддаць замуж дачку Прадславу, каб атрымаць ад жаніха і казну, і дружыну. Святаслаў прызнаецца, што такі ёсць.Смаленскі княжыч Дабраслаў ужо рушыў у дарогу і з воямі хутка будзе ў Полацку. Змеціўшы ў гурце дачку, спяшае паведаміць ёй пра сваё рашэнне. Падчас вострай гаворкі Прадслава запэўнівае бацьку: замужжа для яе страшней вярыг. Святаслаў, аднак, пярэчыць: спакой дзяржавы цяпер даражэй і за малітвы, і за лёс дачкі. Тым часам Барыслаў, захоплены красою Прадславы, якую даўно не бачыў, з жахам разумее, што нарэшце сустрэў сапраўднае

каханне і гатовы сам паслаць сватоў, чым выклікае рэўнасць даўно закаханай у яго Вераніі. Зніякавелая ад заляцанняў Барыслава і папрокаў сяброўкі, Прадслава спяшае з паляны, згубіўшы пры гэтым накідку, якую тут жа падымае абражаная Веранія, затаіўшы намер жостка адпомсціць суперніцы.

КАРЦІНА ДРУГАЯ. ***Сцэна 1.*** На той жа паляне выбухова ўспыхвае полымя Купалля і ўсё навокал перапаўняецца шалам жарсці. З-за дрэў за людзьмі сочаць бесы**.** Дзяўчаты са спеваамі нясуць да ракі вянкі, але закаханы Барыслаў нічога не чуе, роспачна спадзеючыся сустрэць тут недасяжную князёўну. І цуд адбываецца. На адной з дзяўчат залаціцца знаёмая накідка. Закаханы да бясцямы, князь страчвае раўнавагу. Распушчаныя валасы асланяюць аблічча дзяўчыны, у якой цяпер цяжка пазнаць Веранію, і Барыслаў упэўнены: перад ім сама Прадслава! Нарэшце прагучалі прызнанні-клятвы, і абое апынуліся ў ў абдоймах жарсці, сыходзячы ў пранізаную светлякамі пушчу. ***Сцэна 2.*** Ранішняя зыркасць. На апусцелай паляне Лазар. Пад гучны рогат уваходзіць княжыч Дабраслаў з воямі. Распытаўшы Лазара пра сваю нарачоную Прадславу, якую ён яшчэ ніколі не бачыў, смалянін раптам сустракане незнаёмую красуню, што спяшае ў бок царквы. Кароткая “размова” думкамі, і абое адчуваюць ўзаемнае прыцягненне. Прадславе здаецца, што яна ўжо бачыла ў сне такі ж, як у невядомага княжыча, лагодны позірк. Дабраслаў шкадуе, што гэткая красуня сустрэлася яму залішне позна і нехаця паварочвае да харомаў, дзе яго чакае сватаўство. Прадслава ж зніякавела кіруе ў храм за парадай да Багародзіцы. ***Сцэна 3.*** Пышны харом Святаслава. Госці і сам князь ў чаканні важнай падзеі. Нарэшце доносяцца мужчынскія крокі. Сватаўство смалян пачынаецца прыязна і весела. І толькі Барыслаў раўніва і недвухсэнсоўна насміхаецца над супернікам: маўляў, Прадслава зусім не цнатлівая дзяўчынка, у чым ён сам нядаўна ўпэўніўся. Абражаны Дабраслаў цягнецца за мечам, аднак у залу ўбягае Кмет з навіной пра адступленне ворага. Узрадаваны Святаслаў запрашае ў харомы народ. Гучаць спевы, звіняць келіхі, аднак Барыслаў нешта шэпча на вуха Кмету, які адразу выходзіць. Але ўсе ўжо слухаюць Епіскапа, які папярэджвае: лёс пабожнай князёўны – не замужжа, а малітвы дзеля шчасця народа. Дабраслаў пярэчыць: а што калі ягонае сватаўство Боскі знак? І тут жа бачыць Прадславу… Але ж гэта тая самая прыгажуня з

паляны! Абое радасна ідуць насустрач адно аднаму. І раптам – рэзкі свіст стралы. Даносяцца вокрыкі пра здраду. Забіты смалянін асоўваецца на шчыты сваіх воіяў, якія абяцаюць Полацку помсту. Агульнае замяшанне. І толькі князёўна просіць вояў быць міласэрнымі. Узрушаная забойствам, душа яе прагне адказаў на горкія пытанні: ці прынесла яе краса краіне згоду і мір, ці завяршылася яе захапленне навукамі прасвятленнем у народзе, ці далі спробы прымірыць варагуючых добрыя вынікі? Адказы не суцяшаюць. Князёўна пакутуе — грамадства дасюль апанавана сквапнасцю, цемрай, жорсткасцю. Урэшце, не стрымаўшы роспачы, яна прыходзіць да суровага рашэння і ў пошуку новага шляху… знікае з палаца.

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ.** КАРЦІНА ПЕРШАЯ. С***цэна 1.*** Прамінула восем гадоў але ў прасторы між  Небам і Зямлёю па-ранейшаму бязлітасна змагаюцца сілы Святла і Цемры.***Сцэна 2.*** На ўжо знаёмай паляне пагрозліва шумна. Згалелы люд весяў змаўляецца выступіць супроць заможнага князя Барыслава. У гурце  Лазар і Прадслава, апранутая ў манаскую накідку.  На аблічча яе насунуты каптур. Галодны бунт разгарацца, і ўсе чакаюць ад манашкі парады. Толькі вось чаму гаворыць чарніца зусім не тое, чаго ўсе чакаюць пачуць!? А сведчыць яна пра тое, што, маўляў, кожнаму чалавеку патрэбна найперш збудаваць уласную душу. А затым  узвесці і народны храм згоды і волі. Пануе одум. І ўсё ж праз хвілю бунтарны настрой перамагае і гурт з косамі і віламі рашуча кіруе ў княжы палац.
***Сцэна 3.*** Запалоцкі харом уражвае шыкоўнасцю. Аднак сам Барыслаў, седзячы ў крэсле, тужліва згадвае маладосць, сумуючы па няздзейсненых мроях. Ужо восем гадоў, як у яго залы прыйшла Веранія, стала жонкай, у пакутах нарадзіла яму дзяцей. Ён жа, князь Барыслаў, здаўна сумуе толькі па адной жанчыне! О, мройлівыя намеры зрабіць людзей багатымі! Высакародныя памкненнні так і засталіся няспраўджанымі. Быццам разам са знікненнем Прадславы, знікла з душы Барыслава і ўсё светлае. Праўда, сам ён атрымаў ад жыцця ўсе выгоды… Княжы одум раптам спыняе Кмет, які апавядае пра незвычайную жанчыну, што моцна ўплывае на просты люд. Веранія, уваходзячы, падымае таго на смех, бо хіба можа слабая кабета весці за сабою народ і пагражаць дзяржаве? І раптам  звонку даносяцца пагрозы і вось ужо народ пераступае парог. Назравае ўзброеная сутычка з вартай, але наперад выступае жанчына ў чорных

шатах з апушчаным на твар каптуром. Падняўшы Евангелле, уціхамірвае грамаду і ўсе выходзяць. У харомах, нягледзячы на смяротную пагрозу, застаецца, чакаючы княжага рашэння, толькі адна яна, манашка.

КАРЦІНА ДРУГАЯ. ***Сцэна 1.*** Ноч агарнула харом таямнічымі ценямі. У зале перад сталом – Веранія. Адразу прызнаўшы ў манашцы Прадславу, якую лічыла памерлай, жонка Барыслава турбуецца найперш за будучыню сваёй сям'і і звяртаецца за падмогай да старых паганскіх багоў. Урэшце прызнаецца, што прагне толькі пагібелі суперніцы, якая застаецца вернаю свайму Хрысту і цяпер пагражае не толькі Веранії, але ўсёй даўняй веры. Нарэшце выцягвае са схаваў бонку з атрутным напоем, які выліваліваe ў сярэбраны келіх. Чакае. Прадслава і сапраўды ўваходзіць. Абедзве жанчыны пачынаюць вусцішна ўспамінаць юнацтва і Веранія ў знак прымірэння падае даверлівай госці келіх Тая, аднак, устрывожана нядобрымі прадчуваннямі, таму жагнае келіх і моліцца, пасля чаго выпівае віно. Веранія адразу ж мяняецца. Не сумняваючыся ў хуткай смерці суперніцы, прызнаецца ў злачынстве і згадвае пра галоўны грэх – тую сустрэчу з Барыславам ля купальскага вогнішча, дзе князь памылкова прызнаў у ёй Прадславу. Аднак здзіўляецца, што атрута ўсё яшчэ не дзейнічвае. Прадслава заклікае сяброўку да пакаяння, але тая, ўжо ўпэўнена, што ў келіх была наліта не атрута, а чыстае віно. Механічна выпівае напой. І адразу разумее памылку. Пачынае паміраць. Барыслаў, які ўваходзіць у залу, здзіўлена пазнае Прадславу. Прызнае і незвычайны цуд: малітва ахавала ад смерці пабожную князёўну, не абараніўшы пры гэтым зламысную Веранію. Узрушаны, каецца ва ўласных грахах. І найперш у забойстве Дабраслава. ***Сцэна 2.*** У харомах з самотнай Палачанкаю з'яўляецца Анёл. Ухваліўшы сілу яе духу, бласлаўляе і зямлю, і ігуменню Еўфрасінню. Уваходзіць Епіскап, які згадвае жыццёвы подзвіг юніцы Прадславы, якая змагла павалодаць зямныя спакусамі і грахоўным светам. Абвяшчае пра дзівосны сон, у якім Анёл загадаў яму перадаць Еўфрасінні метахію ў Сяльцы, ускладвае на палечы манашкі ігуменскі крыж. З'яўляецца князь Барыслаў. Уражаны ўбачаным, ахвяруе срэбра на пабудову абіцелі. Палачанка выходзіць. Дабраслаў прызнаецца, наколькі моцна перажывае пагібель Веранії, з якой было пражыта ўсё жыццё. Выпівае з келіха лёсу і падае мёртвым…***Сцэна 3.*** Народ шумна запаўняе ўжо знаёмую паляну

і ігумення замаўляе Лазару крыж-абярог для ўсяго краю. Майстар відочна пасталеў, душа яго ўзбагацілася сапраўдным натхненнем. Бліскаюць сполахі касмічных катаклізмаў, даносяцца грымоты. Ігумення пачынае малітву за родную зямлю і будучыню. Фінальны хор напоўнены гатоўнасцю аддаць Айчыне і веры ўсе сілы. Урачысты горні звон блаславёна расцякаецца па гонях радзімы…

**МАЙМУ ЧАЛАВЕКУ**
**( з музею камянёў на Візбю)**

Гэта вікінгаў маці, - паўмесяцы рэбраў каменных.
Пачынаецца шторм:
праз вар'яцтва Гальфстрыму плыву.
Семя ў лоне маім,
як жарсця ўспаконвек Мона Лізы.
Прадчуваю манаства і ўздыбленай ярасці дым.
Развітання пара. Назаўсёды! На зміг…
І на вечнасць. Каб у новых стагоддзях
Прачнуцца ў сінечы нямой.
Нахіляюся зноў над люстэркамі даўняй любові.
Саркафаг мой празрысты.
Саркафаг мой спрадвеку зямны.
І адчую тады на губах сваіх, спрэс нерэальных,
На распаленых вуснах — пранікаючы стронцыя чад.
Гэта боль пацалунку, таго, што быў першы з апошніх,
На які мы ў гуртоўні з табой не рашыліся ўсё ж..
… Бляск сузор'яў — з вачніц.
Ўсё нябачнае ў новай прыродзе. Гэта будучы свет.
Грэх і святасць спрадвечных жарсцей.
За-чы-на-ем Дзіця…
Бесцялеснае ў сне радыяцый.
Гэта я – новых вікінгаў маці, пастукала! Чуеш мяне?
Ці мяркуеш, да зорак – кожны з нас у самоце ўзлятае?
Бач – Анёлы ўваходзяць. Мой. І Твой.
Каб сыграць у салодкія горны.
І ўздымаюцца з хваляў драконы
Парокаў і тайнаў людскіх.
Кожны пеклам нам грозіць.
Кожны кліча ажыць з ім у райскім.
Кожны прагне у вечнасць і полымны мае назоў.
О каханне маё. О сумота мая.

О святасць адрачэння…
О боль  сладастраснасці і сэнс незапатрабаванасці.
О недаўменне закаханасці.
 О недасканасць наша!
Прабачце! Прабач мяне. Прабач.
 Прабач мя… не!
Але як жа балюча!  О, Госпадзі…
  *Ліпень-жнівень    2010*